Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

30 КАСТРЫЧНІКА – 5 ЛІСТАПАДА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ ЦАНА 5000 РУБЛЁЎ
№44 (184)

АДНА ЗЯМЛЯ

СМАРГОНЬ

## Мрэм, браткі–беларусы?

8 дзяцей у разліку на тысячу жыхароў нарадзілася сёлета ў раёне. Памерла ж за гэты час 10 з таго ж разліку. Гэта складае ў натуральным выражэнні 423 нованароджаныя і 660 з лішнім з ліку тых, хто развітаўся з жыццём.

У першым радку прычын, што спрыяюць смяротнасці, – сардэчна–сасудзістыя хваробы. Следам ідуць злаякасныя новаўтварэнні, траўмы і няшчасныя выпадкі са смяротным зыходам, захворванні органаў дыхання.

Мясцовыя медыкі ганарацца, што смяротнасць дзяцей да года жыцця складае 7 на тысячу, у той час як па Гродзеншчыне гэты паказчык дасягнуў 12 дзяцей на тысячу нованароджаных.

**Павел МАКЛЮК.**

ВІЛЕЙКА

## Давайце кароўку купім

На гэтым тыдні гармалзавод пачаў выпуск малака ў пакетах з выявай ката Матроскіна з мультфільма "Канікулы ў Прастаквашыне".

Наогул, завод рэгулярна мяняе малюнкі на ўпакоўцы прадукцыі і такім чынам падтрымлівае дадатковую цікавасць пакупнікоў да сваіх вырабаў.

**Ігар КІЦІКАЎ.**

СМАРГОНЬ

## Рублём па беспрацоўі

Калі з мужчынскім беспрацоўем у горадзе больш–менш спраўляюцца, ды будаўнічыя арганізацыі хоць сёння гатовыя ўзяць да трохсот рабочых, то з жаночым куды складаней. Не запатрабаванымі рынкам працы аказаліся былыя інжынеры, тэхнолагі, эканамісты і іншыя. Пераважна, былыя работніцы заводаў аптычнага станкабудавання ды агрэгатнага.

Аднак пакрысе праблема развязваецца. Вось і адкрытае акцыянернае таварыства "Смаргоньлён" папрасіла падмацунку: унесла ў райвыканком прапанову стварыць яшчэ 21 рабочае месца. Дырэкцыю падтрымалі. А Гродзенскі аблвыканком выдзяляе для стварэння рабочых месцаў для ўладкавання беспрацоўных жанчын, якія стаяць на ўліку ў службе занятасці, 1680 мільёнаў рублёў з дзяржаўнага фонду.

**Павел МАКЛЮК.**

МАЛАДЗЕЧНА

## Грошы знікаюць у коле гонару

Старое Места "ачапілі" плотам. Цяпер усе маршрутныя аўтобусы (незалежна ў якім накірунку) робяць "кола гонару" вакол царквы.

Дырэктар аўтапарка №4 **Пётр Мамчыц** гаворыць, што такім чынам штодзень набягаюць лішнія 300 кіламетраў.

**Аддзел інфармацыі.**

СМАРГОНЬ

## Нядоўга музыка гучала

Добрых пяць год жыхары Смаргоншчыны не чулі перадач мясцовага радыё. Незразумелыя адносіны з вузлом сувязі, потым адсутнасць ліцэнзіі падкасілі ўшчэнт гэты магутны сродак інфармацыі. Пасада ў штаце "раёнкі" была, а радыё маўчала.

Сёлета райвыканком выдзеліў 120 мільёнаў рублёў на набыццё сучаснай апаратуры, на пасаду карэспандэнта прынялі журналістку–завочніцу **Аляксандру Усціновіч**.

Ды нядоўга гучалі музыка і жывыя галасы. Пасля пяці–сямі перадач сутыкнуліся асабістыя і дзяржаўныя інтарэсы, "радыстка" паклала на стол заяву аб звальненні. Хто прыйдзе ёй на замену і калі – пакрыта змрокам. Загарадзілі агарод, але ненадоўга.

**Павел МАКЛЮК.**

СМАРГОНЬ

## Долар, яшчэ адзін...

На 17,9% ад мінулагодняга ўзраслі аб'ёмы прамысловай вытворчасці на прадпрыемствах горада. Вялікая ўвага нададзеная экспарту прадукцыі ў замежжа.

Вызначаюцца тут завод аптычнага станкабудавання, які адпраўляе вакуумныя ўстаноўкі ВУ–400 у Кітай і на Тайвань, а таксама агрэгатны завод з яго міні–трактарамі МТЗ–082. Дарэчы, гэтыя машыны камплектуюцца маторамі амерыканскай і чэшскай вытворчасці.

Агульны аб'ём экспартных паставак са Смаргоні за 9 месяцаў дасягнуў 7,2 мільёна долараў ЗША, што складае 61,6% ад усяго аб'ёма выпуску прамысловай прадукцыі.

**Павел МАКЛЮК.**

## Куфэрак №3- падпісчыкам

Сёння падпісчыкі нашай газеты атрымалі ў дадатак культурна-гістарычны ўкладыш «Куфэрак». У ім, у прыватнасці, ёсць публікацыі пра гісторыю татараў Смаргоншчыны, пра лёс патрыёта Мікалая Грышкевіча з Вілейкі, публікацыя **Аляксандра Наркевіча** аб геаграфічных назвах...



ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ

# Што было на сняданак?


Ала Аношка.


Таццяна Бондар.


Надзея.


Святлана.


Наталля Фандорка.


Алена.


Людміла Капцюг.


Віктар.


Вячаслаў Тамашэвіч.

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

*Чарговае экспрэс-апытанне праводзілася ў Маладзечне.*

*1. Чым сёння снедалі?*

*2. Што ўваходзіць у ваш штодзённы рацыён?*

***Ала АНОШКА:***

1. Чай, бутэрброд з сырам.

2. Супы звычайна не ядзім. Апошнім часам у два разы меней ужываем мяса – дорага каштуе. Летам заўсёды купляла лімоны. Цяпер купляю толькі для здароўя – калі хто хварэе. Сяброўка параіла дыету: ківі, курага, мёд. З–за дарагавізны прыйшлося ад гэтага адмовіцца. Тым не менш, лічу, што харчуемся добра. Сыну заўсёды купляю апельсіны, таксама сабе і яму – малочныя прадукты.

***Таццяна БОНДАР:***

1. У мяне трое дзяцей – 5, 7, 9 клас. Раніцой кожнаму вару па яйку. Гатую чай, бутэрброды.

2. Самы грунтоўны ў нас абед. Абавязкова суп на мясным булёне, другое, трэцяе. На вячэру – як прыйдзецца. З вітамінаў ужываем яблыкі. Бананы купляем раз на тыдзень. Шчасце, што муж не гурман, есць усё, што ні згатуеш.

***Надзея:***

1. На сняданак заўсёды ў нас натуральны сок, кілбаса. На вячэру фрукты і ёгурт.

2. Наогул, што тычыцца ежы, ні ў чым сабе не адмаўляем. У нас з мужам двое маленькіх дзяцей. Разам працуем у камерцыі. У халадзільніку заўсёды свініна, курыныя кумпячкі. Супы, кашы не варым, бо дзеці не надта іх ядуць. Затое часцяком выпякаю торты. Штодня купляем дзецям марожанае.

***Святлана:***

1. Бутэрброд з гарбатай.

2. Увесь дзень на рабоце. Бяру з дому салаты з агароднiны. На вячэру нейкая каша і мясны булён.

***Наталля ФАНДОРКА:***

1. Батон з маслам і кава.

2. Гаспадыня на кухні ў нас маці. Бывае, гаспадарыць бацька, калі рана ўстае. На абед гатуецца суп альбо каша. Вячэра – што застаецца ад абеду. У такім выпадку дома ў нас жартуюць – хто што знойдзе. Майму дзіцяці тры з паловай гады. Ходзіць у садок. Дадаткова даем яму яблыкі, моркву. Купляем цукеркі. Дзіця ў нас мае ўсё, што трэба. Дарослыя ж на сабе эканомяць. У нас заработкі інтэлігентаў, таму халадзільнік пусты. Да прыкладу, сёння ляжаць у ім рэбрышкі і масла.

***Алена:***

1. Зялёны чай.

2. Можна лічыць мяне вегетарыянкай. Праўда, два разы на тыдзень магу з'есці крыху мяса. Два месяцы жыла на памідорах. З морквы, капусты, рысу эксперыментую стравы. Люблю пшано. Хацела б на працягу года есці перац, баклажаны, ківі. Бананы апошні раз купляла аж у маі. Як сезон, тры разы на дзень ем салату. Магу ўзбагаціць такі рацыён грэнкамі.

***Людміла КАПЦЮГ:***

1. Рысавая каша плюс агароднiна.

2. У нас маленькае дзіця, таму штодзённа рацыён абмяркоўваецца. Часта на стале мяса. Разам з мужам гатуем любімую страву – плоў.

***Віктар:***

1. Харчаванню шмат увагі не надаем.

***Вячаслаў ТАМАШЭВІЧ:***

1. Катлеты і рысавую кашу.

2. Абавязкова гатуем суп, другое, трэцяе. У выхадныя робім разгрузачныя дні.

**Васіль САВІЦКІ.**

*Пытанне наступнага выпуску рубрыкі:* ***КОЛЬКІ ГУБЛЯЕЦЕ ЧАСУ НА ГАРАДСКІХ АЎТОБУСНЫХ ПРЫПЫНКАХ?*** *Газета прымае пытанні і ад чытачоў. Тэлефануйце 69667. Пішыце на адрас рэдакцыі. Для зваротнай сувязі ўказвайце сваё імя і прозвішча, тэлефон.*

*САНЭПІД ІНФАРМУЕ*

## Нормы не ў пашане

Працягваецца рост захворваемасці вострымі рэспіраторнымі вірусными інфекцыямі, якіх зарэгістравана 1011 выпадкаў, што амаль у 1,7 раза перавышае сярэднестатыстычны ўзровень для гэтага перыяду. Крыніцай захворванняў з'яўляецца хворы чалавек, шлях перадачы – паветрана–кропельны. Асновы прафілактыкі: захаванне паветрана–цеплавога рэжыму, загартоўванне, ужыванне з прафілактычнай мэтай полівітамінаў.

Аб прафілактычнай полівітамінізацыі харчавання ў школах і дзіцячых дашкольных установах вынесеная пастанова Галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Рэспублікі Беларусь №18 ад 17.09.98 г., якая прадугледжвае, у прыватнасці, распрацоўку да 1 лістапада плану пераходу да полівітамінізацыі дзяцей і падлеткаў па кожнай навучальна–выхаваўчай установе і тэрыторыі, з улікам стану здароўя, рэальных фінансавых магчымасцяў.

Аднак практыка паказвае, што на справе не вырашаюцца часам простыя пытанні.

Пры праверцы 21 кастрычніка дзіцячага садка ў в. Селеўцы, што належыць ААТ "Маладзечанская аграхімія" і наведваюць якія 26 дзяцей, устаноўленая поўная адсутнасць якіх–небудзь прадуктаў для прыгатавання ежы дзецям. З апошніх рэшткаў быў прыгатаваны абед, на вячэру дзеці засталіся галодныя. На наступны дзень дзіцячы садок не змог прыняць дзяцей, хаця з іх 8 – вучні падрыхтоўчага класа. Да таго ж, тэмпература ў дзіцячым садку не падымаецца вышэй за вонкавую, а пытанне набыцця ватных коўдраў не вырашаецца.

Не лепшым чынам ідуць справы і ў дзіцячым садку г. п. Радашковічы (раённага аддзела адукацыі), дзе на працягу лета не змаглі правесці рамонт даху, харчаблока і сантэхнічнага абсталявання. Да таго ж, у дзіцячым садку адсутнічаюць сродкі для мыцця і чысткі, недастаткова чыстай бялізны і мыла.

Прабыванне дзяцей у такіх умовах не абяцае нічога добрага, санітарнай службай вынесеныя пастановы аб прыпыненні эксплуатацыі гэтых устаноў.

Неаднаразовыя парушэнні санітарных нормаў адзначаліся ў кафэ "Пралеска" п. Чысць (АТ "Забудовагандаль"), за што загадчыца аштрафаваная і вынесена пастанова аб прыпыненні эксплуатацыі.

Таксама прыпыненая эксплуатацыя кандытарскага цэха на СТК "Барок" к–са імя Дзяржынскага.

Аштрафаваныя за нездавальняючае ўтрыманне тэрыторый дырэктары баз "Маладзечнагандаль" і "Маладзечнаагароднінагандаль".

Па выніках лабараторных даследаванняў, якасць даследаванай прадукцыі была здавальняючая.

**Нам. галоўнага ўрача Маладзечанскага РЦГіЭ Міхаіл ГРАБОЎСКІ.**

## Жаўтуха ў школах

ВАЛОЖЫН. Супрацоўнікі РЦГіЭ б'юць трывогу: у гарадскіх школах рэгіструюцца захворванні вірусным гепатытам А (хваробай Боткіна). На сярэдзіну кастрычніка ў школе–гімназіі было выяўлена 5 выпадкаў гэтай заразнай хваробы, у СШ №1 – тры і ў СШ №2 – адзін выпадак віруснага гепатыту.

У 70–80–х гадах існавала добрая традыцыя – штодня ў школе прызначаўся дзяжурны настаўнік, які сачыў, каб ні адзін вучань не прайшоў у сталовую, не памыўшы перш рукі. Цяпер жа такога не ўбачыш.

**Уладзімір УЛАДЗІМІРАЎ.**

*СТАРЫ АЛЬБОМ*



Канец шасцідзесятых - пачатак семідзесятых. Мост праз Нарачанку ў вёсцы Іжа на Вілейшчыне. Сфатаграфавана з боку млына. Мост і млын пабудаваныя ў 1936 годзе мясцовым яўрэем-прадпрымальнікам. У савецкія часы млын выкарыстоўваўся па сваім прамым прызначэнні. Была і лесапільня. А генератар, падключаны да турбіны, даваў вёсцы сваю электрычнасць. Сёння таго маста няма, няма млына, дарога-асфальтаванка знішчыла і вербы, пасаджаныя абапал бруку. Павузела Нарачанка- знікла плаціна. Не чутно ўлетку і галасоў дзятвы, месцам адпачынку якой заўсёды быў «Шум» - вадаскід плаціны.

ФОТА З АЛЬБОМА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

*КРАЯЗНАЎСТВА*

# Наведайце старадаўнія Баруны

***АШМЯНЫ. Некалі распаўсюджанай з'явай было паломніцтва ў святыя месцы. Прапаную маршрут – толькі паломніцтва, у значнай частцы, гістарычнага.***

Вёска Баруны сёння ляжыць убаку ад значных шляхоў (хаця вуліцы, што праходзяць праз яе, называюцца, як і раней, Мінская, Віленская і Гальшанская, яны гавораць нам, у якіх кірунках можна выправіцца з Барунаў). Даезд да вёскі добры, сюды некалькі разоў на дзень прыходзяць аўтобусы са Смаргоні і Ашмянаў. Старадаўняя планіроўка мястэчка з вялікай трохвугольнай рыначнай плошчай пасярэдзіне гаворыць пра тое, што ўзнікла яно недзе паміж XIV і XVIII ст. Царкоўная ж легенда сцвярджае, што да канца XVII ст. тут не было ніякага пасялення і што месца гэтае ўказала Божая Маці, якая ў сне з'явілася мясцоваму ўніяцкаму ксяндзу Мікалаю Песляку і загадала яму збудаваць сярод лесу касцёл, а месца тое назваць Баруны (ад слова “бор”).

Факты ж гавораць, што ў канцы XVII ст. ксёндз Мікалай Пясляк атрымаў у спадчыну ад аднаго са сваіх мінскіх родзічаў абраз Маці Божай, які палічыў цудатворным, і быў удзячны яму за сваё ацаленне ў час халернай эпідэміі ў Мінску. Вестка аб цудоўным абразе хутка разнеслася ў наваколлі, і ўжо праз год пасля таго, як Пясляк прывёз абраз у Баруны, ён змог на сабраныя ад людзей ахвяраванні пабудаваць першы драўляны касцёл.

Гісторыя абраза была складанай у час розных войнаў, некаторы час ён захоўваўся ажно ў Закапанэ (Польшча). У 1922 г. вярнуўся ў Баруны.

Мураваны касцёл у Барунах быў збудаваны 240 год таму, у 1757 годзе. Ён будаваўся як уніяцкая царква, бо адначасова тут існаваў і вялікі ўніяцкі кляштар айцоў базыльянаў.

Касцёл быў збудаваны паводле праекта архітэктара Асікевіча і дабудаваны ў 1760–1770 г. г. Мастацтвазнаўцы адносяць яго да найбольш дасканалых узораў віленскага барока. Для абсталявання касцёла былі запрошаныя найлепшыя майстры з Мінска і Вільні, яны выканалі сем драўляных разных алтароў, на якіх ўсталявалі 28 абразоў, сярод іх многа высокамастацкіх. І сёння барункі касцёл упрыгожваюць некалькі цудоўных старадаўніх абразоў, акрамя цудатворнага абраза Барунскай Божай Маці, Суцяшальніцы Хворых. Праўда, сёння няма ўжо ў касцёле тых старадаўніх каштоўных культавых рэчаў, набажэнскіх кніг супрасльскага, віленскага, пачаеўскага друку, старажытнай плашчаніцы, якія меліся ў XVIII ст.

Але затое ў Барунах захаваўся мураваны будынак базыльянскага кляштара, збудаваны ў канцы XVIII ст. Усё мястэчка Баруны разам з людзьмі належала касцёлу і павінна было працаваць на яго.

Ордэн базыльянаў вядомы ў гісторыі сваёй асветніцкай дзейнасцю. Вось і ў Барунах з 1700 па 1833 год існавалі пад крылом манахаў–базыльянаў розныя навучальныя ўстановы: да 1740 г. тут была 3–гадовая свецкая школа, з 1740 па 1780 – школа будучых святароў, з 1780 да 1833 – 6–гадовая свецкая школа для шляхецкіх сыноў, якая давала права далейшага паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову. Такой бліжэйшай установай быў Віленскі ўніверсітэт. Выхаванцы барунскай школы пакінулі значны след як у Віленскім універсітэце, так і ў навуцы, культуры, грамадскім жыцці Беларусі, Літвы і Польшчы.

У розныя гады першай чвэрці XIX ст. барунскую школу скончылі вядомы пісьменнік–краязнаўца, ураджэнец вёскі Заблочын Вілейскага павета Ігнацій Ходзька (1794–1861), аўтар шматлікіх краязнаўчых і гістарычных твораў: “Літоўскія мамонкі”, “Літоўскія паданні” і іншых; Леанард Ходзька (1800–1871), сакратар Міхала Клеафаса Агінскага, а ў далейшым – найбуйнейшы збіральнік і выдавец матэрыялаў па гісторыі Беларусі і Польшчы, гісторык і публіцыст, выхадзец з вёскі Аборкі Ашмянскага павета (сёння Маладзечанскі р–н), вядомы паэт і блізкі сябар А. Міцкевіча – Антоні Эдвард Адынец, ураджэнец в. Гейстуны Ашмянскага павета; паэт, перакладчык Гарацыя, Шылера, Байрана і Шэкспіра на польскую мову – Юльян Корсак (1807–1855) са Слонімскага павета і шмат іншых.

Пра сваё навучанне ў барунскай школе пісалі ў мемуарах Ігнацій Ходзька (ён прысвяціў гэтаму часу апавяданне “Баруны”) і А. Э. Адынец. Адынец пісаў, прыкладам, што ў гэтым вясковым, малым, ціхім закутку верна адбіўся, як сонца ў кроплі, характар і звычаі “літоўскіх” школ і студэнцкага жыцця ў іх моладзі.

Пра час існавання ў Барунах школ нагадвае сёння мураваная капліца ў сярэдзіне рынкавай плошчы, так званая “студэнцкая”, дзе калісьці павінен быў захоўвацца штандар школы.

У 1831 г. была прынятая пастанова аб скасаванні базыльянскай свецкай школы, а замест яе стваралася духоўная школа, абавязаная даваць выхаванне 20 сіратам ці дзецям беднага духавенства.

Касцёл жа ў Барунах дзейнічаў заўсёды. І калі ў сярэдзіне XIX ст. манахаў–базыльянаў не стала ў Барунах, касцёл працягваў быць буйнейшым духоўным цэнтрам гэтага рэгіёна. У гады першай сусветнай вайны і пазней мясцовыя святары апекаваліся тут прытулкам для ваенных дзяцей–сірот. У 20–я гады ў будынку былога кляштара размяшчалася беларуская настаўніцкая семінарыя пад кіраўніцтвам Сымона Рак–Міхайлоўскага. Пра гэта сведчыць сёння мемарыяльная дошка на будынку. Сам жа будынак знаходзіцца ў надзвычай запушчаным стане, хаця яго моцныя сцены яшчэ доўга служылі б жыхарам Барунаў.

Цікавасць для турыстаў, аматараў роднай гісторыі, уявіць і блізкасць старажытнага Крэва з яго маляўнічым замкам, і блізкасць Гальшанаў з не менш багатым асартыментам помнікаў гісторыі і рэлігіі, чым у Барунах. Жадаю добрага паломніцтва!

***Таццяна КЛЯШЧОНАК,***
***Смаргонь.***

*ТРЭЦІ СЕКТАР*

## Аб'яднанне

САЛІГОРСК. Тут прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Асамблеі Дэмакратычных Няўрадавых Арганізацый Мінскай вобласці, у якой узялі ўдзел прадстаўнікі шэрагу грамадскіх аб'яднанняў Міншчыны, што падзяляюць прынцыпы рынкавай эканомікі, дзяржаўнай незалежнасці краіны, правоў чалавека.

Прысутныя пагадзіліся ў надзённасці кансалідацыі сіл недзяржаўнага сектару дзеля каардынацыі сваіх дзеянняў, узаемнай інфармаванасці, адстойвання сваіх правоў. Была таксама ўхваленая дэкларацыя Асамблеі, якая заявіла, у прыватнасці, пра сваю адкрытасць дзеля ўваходу іншых грамадскіх арганізацый.

***Алесь КАПУЦКІ.***

*ВЫТВОРЧАСЦЬ*

## Маршрутаў пабольшала

СМАРГОНЬ. Падоўжыліся аўтобусныя маршруты ў раёне. На вёсцы іх адлегласць складае цяпер 926, у горадзе – 51 кіламетр.

Аўтапарк №17 купіў сёлета два Ікарусы–280, адзін ЛАЗ–695, а таксама два дваццацітонныя паўпрычэпы, якія вельмі прыдбаліся для перавозкі дробных сценавых блокаў АП “Смаргоньсілікатабетон” у Маскву ды Падмаскоўе, дзе за смаргонскай прадукцыяй выстройваецца чарга. А новыя аўтобусы дазволілі палепшыць арганізацыю пасажырскіх перавозак.

Але тут умеюць і рамантаваць састарэлыя машыны. Паўтара года таму на былых складскіх плошчах арганізавалі работу цэха па капітальным рамонце аўтобусаў. За месяц звычайна рамантуюць адну машыну – Ікарус, ЛАЗ ці ЛіАЗ, прытым для свайго аўтапарку, пабочных заказаў пакуль цураюцца. Капітальны рамонт кузава ці салона, рухавіка, нясучых каркасаў.

– Рамантаваць аўтобусы дома вельмі выгадна,– гаворыць дырэктар аўтапарка **Мікалай Самайловіч**.– Адправіш машыну на спецыялізаваны завод – выкладзі каля трох мільярдаў рублёў. А дома гэты рамонт абыходзіцца ад 600 да 800 мільёнаў за той ці іншы аўтобус.

А пасля кожнага рамонту аўтобусы прымае спецыяльная камісія, яна вызначае якасць рамонту і аплату працы рамонтнікаў. Пакуль што ніхто не ў крыўдзе – ні аўтаслесары са зваршчыкам, ні вадзіцелі, якія атрымалі ўжо з капіталкі больш як 15 аўтобусаў.

***Павел МАКЛЮК.***

*КУЛЬТУРА*

## Зламаны ўзмацняльнік сам па сабе запрацаваў у Беларусі

***МАЛАДЗЕЧНА. Джаз–бэнд з Эслінгена наведаў школу мастацтваў. У музычным калектыве навучэнцы тамтэйшай гімназіі. Некаторыя ўдзельнікі “банды” ў Маладзечне трэці раз, таму ёсць у іх тут свае прыхільнікі і сябры.***

На гэты раз афіцыйнага прыёму ў гарвыканкоме не адбылося. Для двойчы кіраўніка (нямецкай дэлегацыі і бэнда адначасова) **Альбрэхта Ніслера** гэта не галоўнае. Ён таксама мала звяртаў увагу на змяненні ў знешнім выглядзе горада:

– Для нас важнае музычнае супрацоўніцтва.

Джаз–бэнд даў канцэрт у САШМ. Некаторыя музычныя нумары выконваліся пры свечках. Гасцей “размеркавалі” па сем'ях. Быў час пазнаёміцца з нашым ладам жыцця і крыху падвучыць мову.

– Грошы на паездку ў Маладзечна мы самі зарабілі, – распавёў пан Ніслер, – у сябе даем платныя канцэрты на прэзентацыях фірмаў, на святы. Маем сяброў у Англіі, Італіі, Венгрыі, Чэхіі.

Альбрэхт Ніслер – жартаўнік. На сустрэчы з бацькамі навучэнцаў школы мастацтваў сказаў, што вельмі ўзрадаваўся, калі яшчэ ў Эслінгене зламаўся маленькі аўтобус. Вялікі, на якім прыехалі, якраз здольны забраць усе падарункі. Узмацняльнік, які зламаўся ў дарозе, без аніякага рамонту запрацаваў на Маладзечаншчыне. А яшчэ Альбрэхт часцяком ужываў (у большасці, без патрэбы) нашае “дзякуй”.

А на поўным сур'ёзе адзначыў высокі ўзровень танцораў, музыкантаў школы мастацтваў. Запрасіў іх да сябе, зразумела, з канцэртам.

***Васіль САВІЦКІ.***



## Як знайсці «Рэгіянальную»?

*Вялікі Гасцінец*



САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Заканчэнне. Пачатак у №№ 8-34, 36-38, 43.*

***Пра Амерыку можна расказваць шмат. Днямі знаёмы распавёў, што яго калега тэлефанаваў родным з Вашынгтона (са стажыроўкі):***

***– Ведаеце, я шалею...***

***Рускамоўны, ён, аднак, ужыў менавіта гэтае беларускае слова. Ёмістае.***

***Таму, напэўна, варта падвесці рысу пад Амерыкай. Няхай яна не застанецца для многіх з чытачоў «залатой марай» – сюды варта прыехаць, пабачыць усё на свае вочы. На развітанне – колькі цікавых амерыканскіх выпадкаў.***

## «Прыколы» Амерыкі

Вылятаем з Сінсінаці (рускамоўны варыянт - Цинциннати) у Дэ Мойн, на адносна невялікім самалёціку. Злева і ўперадзе сядзяць два таўстуны. Размова маладзечанцаў:

- Каб такімі ўвесь самалёт засадзілі, то наўрад ці падняліся б.

* * *

Член нашай групы апантана размаўляе з суседам–амерыканцам у самалёце.

- Цікава, на якой мове ён размаўляе?

Імгненны адказ:

- На трасянцы.

* * *

Першыя сустрэчы з нашай групай (нагадаю: мы былі першымі беларусамі ў Аёве; раней тут мелі справу толькі з рускімі) прызначаліся, як расказалі амерыканцы, з разлікам на нашае паўгадзіннае спазненне. Праз тыдзень паўгадзіны зменшыліся да 10 мінут (мы не спазняліся наогул, мінуты гэтыя арганізатары бралі just in case – "на ўсякі пажарны"). Неўзабаве нам прызначалі сустрэчы дакладна ў час, без падстрахоўкі.

* * *

Дэ Мойн мае ў «пабрацімах» Стаўрапольскі край Расіі. Выпадак з групай расіянаў увайшоў у фальклор мясцовых фермераў.

Выбраліся неяк хлопцы ў магазін. Ідуць па вуліцы:

– Дзе тут мол (вялікая крама)?

– Направа і прама. Недалёка.

Звярнулі, прайшліся – няма таго мола. Зноў пытаюцца:

– Мол блізка?

– Так, побач. Рухайцеся наўпрост.

Ідуць. Зноў нічога. Пытаюцца:

– Даўно ідзем, увесь час нам гавораць: побач, побач.

Нарэшце абарыгены здагадаліся запытацца ў расіянаў:

– А вы на машыне?

Да мола было яшчэ 7 міль (больш як 11 кіламетраў).

* * *

Амерыканцы лічаць першымі злодзеямі банкі, затым ідуць страхавыя арганізацыі. Гэтыя ўстановы бяруць з людзей максімальныя працэнты за свае паслугі. Анекдоты ж расказваюць пра адвакатаў, якія правяць баль практычна ў любой сферы жыцця. Як адвакат паверне справу, так яно і будзе. Добры адвакат, калі вядзе канкрэтную справу, мае 100–125 долараў у гадзіну.

- Ведаеце, учора з абрыву ўпаў пасажырскі аўтобус. Ёсць дрэнная навіна, а ёсць добрая.

- Спачатаку дрэннае.

- Усе 40 чалавек з аўтобуса загінулі.

- А добрае?

- 39 з іх былі адвакаты.

* * *

Ланч у рэстаране адной з гасцініц, дзе сустракаліся з чарговымі «патрэбнымі людзьмі». Рэшты ад афіцыянта мне належаў 51 цэнт; увечары палез у кашалёк па драбязу - чамусьці 45 цэнтаў, прычым адзін - канадскі. Амерыканцы паспяшаліся заверыць мяне, што гэта выпадковасць. Некаторыя ж сказалі, што такога «наогул не можа быць». Можа б, і не паверыў, каб у руках тыя цэнты не трымаў.

* * *

Падчас паліцэйскага патрулявання пачулі такую гісторыю. Усё тая ж 6–я авеню Дэ Мойна вядомая яшчэ сваімі «начнымі матылькамі». Мясцовыя бабкі блюлі мараль, таму пачалі запісваць нумары машын, што пад'язджалі па прастытутак. Затым накіроўвалі на адрасы ўладальнікаў аўтамабіляў (у ЗША даведацца адрас па нумары аўто вельмі нескладана і даступна кожнаму) адпаведныя лісты. Жонкам, вядома.

Праз тыдзень–другі колькасць кліентаў рэзка зменшылася, вуліца стала чыстая, бо «матылькі» вымушаныя былі перабазавацца ў іншы раён.

* * *

Развіталіся з сем'ямі, дзе жылі, абменьваемся думкамі ў аэрапорце. Наша адзіная ў групе жанчына:

– Мая бабка плакала.

Адказ двух мужчын:

– А нашы радаваліся. Нават у рэстаран нас напярэдадні звадзілі.

* * *

«My father died in prison».

Фраза, якая нейкі час была крылатая ў нас там. Аднаго разу сустрэлі на вуліцы хлопца год 18. Цяжка сказаць, што прыцягнула яго да нас (хіба ўбачыў, што іншаземцы?), але ён высочваў беларусаў дні з тры. Пастаянна "выпадкова" сустракаліся, ён шмат пра сябе расказваў. Накшталт:

– Маці не помню.

– My father died in prison (мой бацька памер у турме)!

Апошнюю фразу ён вымаўляў з такім гонарам, што яна "прыліпла" і да нас. Згадвалі яе ледзь не пры кожнай гутарцы.

* * *

Выпадак для Амерыкі нетыповы, бо прыслуга там тактоўная, "сваё месца" ведае. Сядзім утрох у рэстаранчыку за ланчам, нікога, што называецца, не чапаем. Адзін з нашых узяў нейкую грэчаскую страву – нешта накшталт нашага бліна з начыннем. Толькі пачаў вызваляць гэты "блін" з паперы, як побач з'яўляецца бабка–прыбіральшчыца:

– Гэта страва Джорджа, звычайна ён са мной яе з'ядае.

Натуральна, нямая сцэна, затым пытаемся:

– А хто такі гэты ваш Джордж, уласна?

– Вунь той грэк, гаспадар гэтага рэстарана.

Рабіць няма чаго. Бабкіна "ахвяра" пачынае спрабаваць падзяліць страву напалам, але тут старая не вытрымлівае і сама згінаецца напалам ад смеху. Хаця і са спазненнем, аднак мы таксама ўсміхнуліся. Таму, калі бабка падышла праз мінут з пяць, чакалі працяг.

Цяпер яна прычапілася да другога, з залатым зубам:

– Ты з такім зубам будзь асцярожны, у нас так не ходзяць. Паглядвай назад ды паменей усміхайся. Тут за яго і забіць могуць.

Крыху памаўчала, а затым дадала–параіла:

– А лепш сам выцягні.

Ад смеху мы ляжалі на стале. Бабка не супакоілася і, калі мы былі ўжо ў дзвярах, папярэдзіла:

– Watch, buddy (глядзі, сябрук)!

Гэтае "watch, buddy" таксама ўспаміналі яшчэ не адзін тыдзень.

***

Смешнага было, натуральна, болей. Месца ў газеце замала. І чытач, мусіць, стаміўся?

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***



БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 21.10 | 28.10 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 222 | - |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | - | - |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 137 | 138 |
| Селядзец | 1 кг | - | 194 |
| Рыс | 1 кг | 115 | 115 |
| Цукар | 1 кг | 72 | 75 |
| Грэчка | 1 кг | 106 | 99 |
| Алей | 1 л | 170 | 185 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 29 | - |
| Маянэз | 250 г | 45 | 50 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 190 | 220 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 70 | 60 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 65 | 65 |
| Лімоны | 1кг | 190 | 199 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 60 | 60 |
| Масла | 1 кг | 160 | 150 |
| Тварог | 1 кг | 35 | 40 |
| Малако | 1,5 л | 20 | 20 |
| Бульба | 1 вядро | 80 | 70 |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | - | - |

ПАЖАРЫ

## Жыллё для пагарэльцаў

***ВІЛЕЙКА. 17 чалавек засталіся без даху над галавой. У Асіпавічах пажарам знішчаны шасцікватэрны фінскі дом.***

Шчытавы дом, абкладзены цэглай, крыты шыферам. Жыхары спачатку спрабавалі збіць полымя самастойна, пажарных выклікалі са спазненнем. На аб'екце працавалі 5 пажарных машын. З–за пустот у доме, гаручага ацяпляльніка агонь "скакаў", узнікаў у, здаецца б, залітых вадою месцах.

У 14–гадзіннай барацьбе перамог агонь. На месцы дома засталося папялішча. Мала хто паспеў павыносіць нейкую маёмасць. Толькі ў адной сям'і яна была застрахаваная.

Пажарныя змаглі выратаваць суседнія дамы. Такі ж фінскі дом, што стаяў паблізу, пажарныя ўвесь час палівалі вадой.

Узбуджаная крымінальная справа. Па адной з версій, пажар узнік з–за рамонту жыхарамі ў падвале водаправодных труб.

Пагарэльцаў забяспечылі жыллём. Адной сям'і рамонтны завод выдзеліў два пакоі ў сваім інтэрнаце. Іншых размеркавалі па інтэрнатах ПТВ–124, па вул. Шубіна, 5. Дзвюм сем'ям прапанавалі жыллё. А адныя ад жылля адмовіліся: ёсць дзе жыць. Што тычыцца матэрыяльнай кампенсацыі пагарэльцам, грошы дасць райвыканком, прадпрыемствы. Дарэчы, пры падтрымцы вобласці запланавана за год пабудаваць і новае жыллё. Па словах намесніка старшыні райвыканкома **Мікалая Кароткага**, пацярпелыя атрымаюць таксама гуманітарную дапамогу адзеннем, абуткам.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Згарэў ва ўласнай хаце

РАДАШКОВІЧЫ. Раніцой у сераду згарэў у сваёй хаце 44-гадовы мужчына. Адна з версий трагедыі - курэнне ў нецвярозым стане.

***Аддзел інфармацыі.***

СМАРГОНЬ

## Не з СНД? Утрая даражэй

Ці то людзі пабагацелі і сталі больш будаваць гаражоў, ці яшчэ нейкая іншая прычына ўмяшалася, але платныя стаянкі Смаргоні, якія знаходзяцца ва ўласнасці камунальнай службы, сталі нерэнтабельнымі, нясуць страты.

Мясцовы райвыканком вырашыў так: з грамадзян краін СНД, як і з беларусаў, за стаянку аўтамабіляў будуць браць аднолькавую цану. А вось калі завітае з такой патрэбай немец ці паляк, скажам, яму давядзецца раскашэліцца – заплаціць суму ў тры разы большую.

***Павел МАКЛЮК.***

## Аб'ёмы растуць, а тавары знікаюць

На 880 мільярдаў рублёў прадалі за дзевяць месяцаў харчовых і прамысловых тавараў у 233 гандлёвых пунктах Смаргоншчыны. У параўнанні з мінулым годам – рост амаль на трэць. 65% прадалі дзяржаўныя магазіны, 19 – прыватныя структуры, 16% прыходзіцца на спажыўкааперацыю.

Сярод прададзеных тавараў за гэты час пераважае якраз прамысловая група – 42%. Смаргонцы пабагацелі? Ці, можа, адбіўся "хапун", які прыйшоў пасля абвалу расійскага рубля?

Аднак тавараў, асабліва прадуктаў, меншае ў крамах ды меншае. Знікаюць ці прадаюцца з перабоямі айчынны алей і цыгарэты, цукар, маянэз, вечарамі ў крамах можна не заспець малака ў пакетах, здараецца, што нават сярод белага дня няма смятаны на разліў.

У той час, калі летась было прададзена 247 тон цукру, сёлета яго рэалізавалі ўжо 882. На падыходзе яшчэ 128 са Скідзельскага цукровага камбіната. З улікам ажыятажнага попыту, можна чакаць, што і гэтага смаргонцам не хопіць.

***Павел МАКЛЮК.***

## І куры жывыя, і пеўні здаровыя

Тры тыдні мінае ўжо, як з паліц мясцовых магазінаў зніклі курыныя яйкі. Прычына, як патлумачылі ў аддзеле гандлю, грамадскага харчавання і паслуг райвыканкома, банальная: на птушкафабрыках Беларусі чубатыя нясушкі перайшлі на ўрэзаны рацыён. Вострa не хапае кармоў. Вось і адмаўляюць у нармальных пастаўках яек у гандлёвую сетку асноўныя партнёры смаргонскіх гандляроў – мясцовая птушкафабрыка ды фабрыка "Чырвонаармейская" з Карэлічаў. Калі і трапляюць сюды нейкіх пару карабоў з яйкамі, то накіроўваюцца яны адразу ў дзіцячыя садкі, бальніцы ды на патрэбы кулінараў.

***Павел МАКЛЮК.***

ШКОЛА

## У Маладзечне чакаецца рост таленавітых

***МАЛАДЗЕЧНА. 15 кастрычніка адкрылася школа для адораных дзяцей. Яна ўзнікла па ініцыятыве гарадскога аддзела адукацыі і ў перспектыве ператорыцца ў цэнтр з вызваленымі пасадамі дырэктара і метадыста. Планы стварэння такой школы існавалі не адзін год, вывучаўся досвед работы з адоранымі ў Мінску, Беразіно, Слуцку.***

Першапачатковa адоранасць вызначалася дырэктарамі навучальных устаноў і педагогамі на месцах, затым школьнікі траплялі ў аддзел адукацыі. Пераможцы гарадскіх алімпіяд апошняга навучальнага года, удзельнікі абласных залічваліся без тэставання і рэкамендацый. У выніку 348 дзяцей дапусцілі да заняткаў. Хаця адбор яшчэ працягваецца. Праўда, падчас заняткаў камісія па адборы тактоўна параіла некаторым іх спыніць.

Распрацаваную і зацверджаную вучэбную праграму будуць ажыццяўляць лепшыя, на думку калег, спецыялістаў, педагогі горада: **Ірына Байтаз, Аляксандр Круглы, Валянціна Берасева, Аляксандр Буслаўскі, Валянціна Атрушкевіч, Аляксандр Рыжкоўскі, Аляксандр Савянок, Алег Давідовіч, Зінаіда Рыжкоўская, Валянціна Каток, Алена Заяц**, іншыя.

Заняткі праходзяць па матэматыцы, інфарматыцы, фізіцы, хіміі, біялогіі, англійскай і нямецкай мовах, беларускай і рускай мове і літаратуры – у шасці школах і гімназіі. 5–11–класнікі займаюцца па 2–3 гадзіны ў тыдзень. Цікава, што 8–класнікі, прыкладам, могуць займацца па праграме 10 ці 11 класа. Графік значна насычаны падчас канікулаў.

Арганізатар аддзела адукацыі **Валянціна Цімошак** гаворыць, што навучанне бясплатнае. Усе выдаткі бяруць на сябе аддзел адукацыі і выканком (фінансуецца 144 гадзіны ў тыдзень). У групах не больш за 12 вучняў. А на замежных мовах – яшчэ менш. З двума дзецьмі плануецца індывідуальная работа.

Жадаючых займацца было шмат. Калі хто не пройдзе сёлета, ён можа паспытаць сябе праз год.

Школа для адораных, у асноўным, разлічаная на таленавітых дзяцей з інтэлігентных сем'яў. Праплаціць рэпетытару бацькі–бюджэтнікі не маюць сродкаў. Хаця ў аддзеле адукацыі ўдакладнілі: гэта не рэпетытарства. Усё складаней і сур'ёзней – школа створаная, каб развіваць здольнасці дзяцей.

***Іна ВЯЗЕВІЧ, Васіль САВІЦКІ.***

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

30 кастрычніка- 5 лістапада 1998 года

*Хай жа усе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчынны час ісці нам*
*Вывучаць свой люд.*

Ф. Багушэвіч

# КУФЭРАК №3

Спецыяльны культурна-гістарычны ўкладыш да «Рэгіянальнай газеты»

ЯК СЛОВА НАША АДГУКНЕЦЦА.

## Беларусы вітаюцца

(працяг)

Працягваем нашу гутарку аб тым, як беларусы вітаюцца. Між людзьмі аднаго веку пашыраны вітанні "Здароў!", "Здарова!". Так можа прамовіць і старэйшы да малодшага сябра.

Сустракаюцца яшчэ і іншыя вітанні, як "Шанаванне!", "Прывітанне!". Але яны вузкаўжывальныя. І пачуць іх можна сярод моладзі або між блізкімі сябрамі.

Зрэдку трапляецца і "Гады ў рады!". Так кажуць з чалавекам, з якім даўно не бачыліся. Гэта — адпаведнік рускаму "сколько зим, сколько лет!".

Так вітаюцца ў будзень. А для свята ёсць святочнае вітанне "Са святам!" ("З святам!"). Звярніце ўвагу на мяккі **сь** у слове **свята**. (У выразе "З святам!" **з** аглушаецца і змякчаецца і адбываецца падаўжэнне "[сь:]вятам!". А Каруся Каганца чуем "З святою нядзелькаю!".

Для аматараў прывітацца адмыслова, не так, як усе, прыгадваем: ёсць яшчэ ў нашым народзе, асабліва на Гомельшчыне, вітанні па днях тыдня: "З панядзелкам вас!", "З аўторкам!" і гэтак далей.

Адказваюць: "І вас таксама!"

Гэтыя прывітанні па днях тыдня, якія дайшлі да нас з даўніны, відаць, звязаныя з палескім народным календаром, дзе кожны дзень лічыўся або спрыяльным, або неспрыяльным для той ці іншай работы на гаспадарцы. І ў наш час іншы раз можна пачуць: панядзелак — цяжкі дзень.

На Палессі ў залежнасці ад граматычнага роду назвы дня вызначаліся як мужчынскія ці жаночыя. Панядзелак, аўторак, чацвер — гэта мужчынскія дні, а серада, пятніца, субота, нядзеля — жаночыя. Іх яшчэ называлі дні-хлопцы і дні-дзяўчаты.

І, скажам, каб курыца выседзела куранятак-курачак, пад яе клалі яйкі ў жаночыя дні, бо ці пакласці ў аўторак ці чацвер, то будзе нібыта больш пеўнічкаў.

Жыта зажыналі ў аўторак, чацвер, а цыбулю, каб была горкая, садзілі ў жаночыя дні. Вось таму, відаць, і важна было напомніць у прывітанні, які сёння дзень.

Вядома, забабоны і прымхі нам цяпер без патрэбы, а вось каб прыгадаць, які сёння дзень тыдня, як хутка бягуць яны ў тваім жыцці, каб адчуць важнасць кожнага новага дня, такое прывітанне зрэдку і нам можа быць у нагодзе.

А як жа развітацца па-беларуску? А вось так: "Бывай!", "Бывайце!", "Бывайце здаровы!".

На апошняе развітанне, калі гэта адбываецца ў хаце, звычайна адказваюць: "Хадзіце здаровы!" Часамі развітваюцца людзі словамі вядомай песні Адама Русака ды Ісака Любана "Бывайце здаровы, жывіце багата!"

Яшчэ кажуць пры развітанні "Да сустрэчы!", "Усяго добрага!", "Усяго!". І ўжо зусім неафіцыйна: "Да заўтра!", "Пакуль!". Гэта незалежна ад пары сутак.

А адыходзячы позна ўвечары, кажуць: "Добрай ночы!" (не "Спакойнай ночы", а "добрай"!). Ці "Дабранач!". Адсюль і выслоўе: "Дабранач!" кажу ўсім нанач".

Напрыканцы зноў скажам пра яшчэ адзін штучны наватвор. Праз настаўніцкія курсы ўдасканалення пачалі ўзмоцненна прапагандаваць "Да пабачэння!" (калькy з рускай "До свидания!"), якой ніколі не пачуеш у народзе. І беларускіх дзяцей навучаюць гэтай штучнай языкаломцы, як бы і няма сапраўднага народнага "Бывайце здаровы!".



Ян Міцько

### УСПОМНІ ПРА БОГА

Калі табе дрэнна ў жыцці,
І ў сэрцы пануе трывога,
Старайся прычыну знайсці
І ўспомні пра Бога.
Калі ты застаўся адзін
І трэба табе дапамога,
Хоць пару маленькіх хвілін
Успомні пра Бога.
Калі цябе скручвае злосць
І ў злосці не бачыш нікога,
Падумай, што кожны з нас госць
І ўспомні пра Бога.
Калі ты зусім занямог
Па цяжкіх жыццёвых дарогах,
Павер, што на свеце ёсць Бог,
Успомні пра Бога.

ГІСТОРЫЯ АСВЕТЫ

## НАСТАЎНІЦКІ ІНСТЫТУТ

Маладзечанскі настаўніцкі інстытут — педагагічная навучальная ўстанова, якая рыхтавала настаўнікаў для 5-7 класаў сямігадовых і сярэдніх школ. Створаны ў сувязі з пераходам да ўсеагульнага сямігадовага навучання. Быў пераведзены ў 1947 годзе з Мінска і знаходзіўся па вуліцы Вілейскай (цяпер у гэтым будынку знаходзіцца школа юнага тэхніка). Першым рэктарам настаўніцкага інстытута быў Ц.П.Шакінка.

Сярод найбольш вядомых педагогаў навучальнай установы былі выкладчык беларускай літаратуры М.Ермаловіч, гісторыі сусветнай і Беларусі Л.Абэцэдарскі, а таксама Зяляноўскі Ф.А. і Маркоўскі Дз.М. (у будучыні першы рэктар Гродзенскага універсітэта імя Я.Купалы). Існавалі чатыры факультэты: гістарычны, філалагічны, фізіка-матэматычны, прыродазнаўчы. Першы выпуск адбыўся ў 1949 годзе, пасведчанні аб заканчэнні інстытута атрымалі 78 чалавек, сярод якіх добра вядомыя сёння на Маладзечаншчыне педагогі С.І. Бурак, А.С.Касцюк, Я.М.Касцюк, А.М. Сосна, А.У.Шавель ды іншыя. Некаторыя са студэнтаў і выкладчыкаў сталі потым вядомымі культурнымі і грамадскімі дзеячамі Беларусі.

Адзін з іх — Мікалай Іванавіч Ермаловіч. Ён ужо ў тыя далёкія часы быў паважаным выкладчыкам, грамадска-актыўным інтэлігентам, які асабістым прыкладам натхняў творчую моладзь. Яго імя стала шырока вядомым пасля таго, як выйшлі яго кнігі: "Дарагое беларусам імя", "Па слядах аднаго міфа", "Старажытная Беларусь: Полацкі і Навагародскі перыяды", "Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд".

У сувязі з рэарганізацыяй школьнай адукацыі і пераўтварэнні настаўніцкіх інстытутаў у педагагічныя, Маладзечанскі настаўніцкі інстытут ў жніўні 1955 года быў зачынены.

*Міхась КАЗЛОЎСКІ.*

## Дунін-Марцінкевіч і наш край

***Сёлета споўнілася 190 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага драматурга, паэта і акцёра Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, жыццёвы лёс якога цесна пераплёўся з мясцінамі нашага краю.***




Вясной 1840 года, пакінуўшы дзяржаўную службу, ён набывае на Валожыншчыне, непадалёк ад мястэчка Пяршаі, маёнтак Люцынка. Сваю творчую дзейнасць у літаратуры і на сцэне Дунін-Марцінкевіч пачынае ў 1841годзе з аперэты "Рэкруцкі габрэйскі набор". У 1846 годзе ён складае лібрэта першай беларускай оперы "Сялянка" ("Ідылія") на музыку Станіслава Манюшкі, пастаўленую ў 1852 годзе Мінскім самадзейным тэатрам Поляка. У сярэдзіне XIX стагоддзя выходзяць яго паэтычныя кнігі "Гапон", "Вечарніца і Апантаны", "Цікавішся? — Прачытай!", "Дудар Беларускі або ўсяго патроху", у якіх аўтар заклікае свой народ да абуджэння ўласнага грамадзянскага пачуцця, нацыянальнага гонару і годнасці.

Падчас паўстання 1863 года, якое ён падтрымаў душой і сэрцам, Дунін-Марцінкевіч выступае з агітацыйнымі прамовамі перад жыхарамі Валожына, з гэтай жа мэтай наведваў Маладзечна, Вілейку, Свір. Вядома, што не засталася ў баку ад гэтых падзей і дачка пісьменніка Каміла, якая займалася агітацыяй паўстання ў Гарадку. За ўдзел у паўстанні яна трапляе ў сібірскую ссылку. Закранулі рэпрэсіі бацьку Камілы, які больш года адбывае пакаранне ў адной з Мінскіх турмаў. Гэтыя абставіны і прывялі да таго, што царская цэнзура забараняе выхад яго наступных твораў. І толькі ў 1918 годзе ўбачылі свет яго камедыі "Пінская шляхта" і "Залёты". А паэма "З-над Іслачы або лекі на сон" была апублікаваная ўжо ў наш час, у 1984 годзе. Нягледзячы на створаную атмасферу паліцэйскага нагляду, фактычную забарону адукацыі на беларускай мове, Дунін-Марцінкевіч не здае сваіх ідэйных пазіцый і нелегальна ў 1876 годзе адчыняе ў Люцыншы школку, у якой сам вучыць мясцовых дзетак.

Памёр наш славуты зямляк 17 снежня 1884 года ў сваім уласным маёнтку. Пахаваны на могілках ва ўрочышчы Тупальшчына, у некалькіх кіламетрах ад вёскі Паднеўічы, што на Валожыншчыне.

*Алесь ЦАДКО.*

АДЗЕННЕ РЭГІЁНА



## Вілейскі строй

Нацыянальнае адзенне беларуская народу фармавалася на працягу стагоддзяў. Але асноўныя яго віды, спосабы пашыву і кампазіцыйныя рашэнні, арнамент і колер матэрыялу складваліся пачынаючы з XIII стагоддзя. Матэрыялам да яго служыла мясцовая сыравіна — лён, радзей каноплі, воўна ў натуральнай сялянскай гаспадарцы, вытканыя ў хатніх умовах. Фарбавалі настоямі траваў, кары, лісця ды шышак дрэў, балотнай жалезнай рудой. Ільняныя тканіны, якія ішлі на кашулі, фартухі, галаўныя ўборы, не фарбаваліся.

Па лакальных разнавіднасцях адзенне жыхароў нашага краю адносіцца да Вілейскага строю. Для яго характэрная стрыманасць і паэтычнасць нацыянальнага касцюма. Майстры пазбягалі знешняй эфектнасці ды імпазантнасці вырабаў, імкнуліся да ўнутранай цэльнасці, гатычнай манументальнасці і тонкай выразнасці ансамблю. Вышыўка не адыгрывала вялікай ролі ў адзенні нашых землякоў, майстры стараліся як мага паўней скарыстаць прыродныя якасці лёну, сукна ці крамных тканінаў. Прыкметнымі часткамі адзення былі тут аксамітны ці шаўковы каптур і суконны бурнос.

У жаночы гарнітур уваходзілі: кашуля, спадніца, фартух, гарсэт (у будні замест яго надзявалі безрукаўку-сканцэрку). Жаночыя галаўныя ўборы: намітка, белая палатняная або рознаколерная з фабрычнай шарсцянкі хустка ды вялікая тканая або вязаная з воўны хустка-ахінанка, каптур з нашыўкамі тасёмак шоўку ці аксаміту.

Мужчынскі гарнітур складаўся з кашулі, нагавіцаў, сіняй ці чорнай камізэлькі (доўгай са стаячым каўнярoм або кароткай), аздобленай нашыўкамі, галаўнога ўбору. У халодную пару года насілі армяк, сярмягу, копту, чуйку, бурку, якія шылі з валенага сукна, кажухі белага, шэрага, цёмна-карычневага колеру.

Асаблівасці Вілейскага строю пачалі складвацца ў XIX ст. пад уплывам гарадскога касцюма таго часу.

*Язэп РОКАШ (паводле кнігі М.Раманюка «Беларускае народнае адзенне»*

 



# «АСАБІСТАГА ЖЫЦЦЯ НЕ ШКАДУЮ...»

*Прысвячаецца настаўнікам і вучням Вілейскай беларускай настаўніцкай семінарыі.*

*Дзе вы, землі чарназёмныя?*
*Дзе вы, коні меднагрывыя?*
*У траву ўпалі зоркамі*
*Людзі, некалі шчаслівыя.*

***Леанід Дайнека***

Была вясна такога далёкага ўжо 1906 года. Толькі што адгрымелі першыя навальніцы. Здавалася, што ўвесь свет радуецца жыццю, якім была напоўнена кожная часцінка ажыўшай і расквітнеўшай прыроды. Першыя свежыя лісточкі цягнуліся да сонца, як маленькія дзеткі цягнуцца да сваіх матуляў, сады, апранутыя ва ўсё бела-ружовае як прыгажуня-нявеста выпраменьвалі такі зарад радасці і шчасця, што хацелася танцаваць і смяяцца, спяваць і весяліцца. Хацелася проста жыць. На Беларусь прыйшоў травень.

А ў гэты, такі прыгожы і спадзейны час, на Мядзельшчыне ў невялікай вёсачцы Андрэйкі ў сям'і лесніка Міхася Грышкевіча і яго жонкі Вольгі было двайное свята — 6 мая гэтага года ў іх нарадзіўся сын. Першынец. Назвалі яго Мікалаем. Чалавек рабіў толькі першыя крокі па гэтай зямлі. За штодзённай цяжкой сялянскай працай непрыкметна праляталі дні, тыдні, гады. Хлопчык рос, набіраўся сілы, паступова пачаў дапамагаць па гаспадарцы. Пасвіў гусей і качак, а затым свіней і кароў, адным словам, праходзіў своеасаблівыя «сялянскія універсітэты». Праз нейкі час сям'я пабольшала: нарадзіўся яшчэ адзін сын Аляксандр, а затым дачка Клаўдзія.

Можна сказаць, Грышкевічам пашанцавала. Іхняя хатка стаяла крыху воддаль ад вёскі, на самай ускраіне лесу, вакол раслі дрэвы, спявалі птушкі, цвілі кветкі. Маленькі Коля вырастаў сярод натуральнай прыгажосці, векавечных беларускіх лясоў, сярод некранутых цывілізацыяй рэк, азёр, бароў і гаёў. Відаць, не адзін раз з сябрамі, а то і адзін, узяўшы ў рукі вуды ішоў на рэчку Вузлянку (якая знаходзілася за кіламетры тры ад хаты), каб прынесці да дому свежай рыбы, а то і ракаў, якіх тады было шмат у нашых вадаёмах.

Час не стаіць на месцы. Прыйшла пара ісці ў школу. На жаль, нам не вядома, у якую школу хадзіў Мікалай Грышкевіч, можа гэта была школка ў Сватках, а можа і ў Талуці, а магчыма і ў родных Андрэйках. Ды гэта не так і важна. Важна іншае — вучыўся ён вельмі добра. Асабліва любіў матэматыку, за што дзеці далі яму мянушку «купец». За гэта моцна не крыўдаваў, а ў нейкай ступені нават ганарыўся, бо купцом мог быць толькі працавіты і руплівы чалавек. Але хутка прыйшла пара нялёгкіх выпрабаванняў. Пачалася першая сусветная, а за ёй не менш страшная грамадзянская вайна. І толькі пасля 21-га года пачалося адноснае зацішша. Цела Беларусі было падзеленае на дзве часткі. Тая частка, дзе жыла сям'я Грышкевічаў, апынулася пад уладай буржуазнай Польшчы. Праз нейкі час і ў іхнюю глухамань пачалі даходзіць чуткі аб тым, што адчыняюцца прыватныя і дзяржаўныя пачатковыя і сярэднія школы. Мікалай Грышкевіч — са згоды бацькі — вырашыў ехаць вучыцца. Зараз цяжка сказаць, чаму месцам навукі была выбраная менавіта Вілейка. Можа тут жылі сваякі, а можа таму, што яна знаходзілася найбліжэй ад роднай вёскі, а магчыма яшчэ якія-небудзь прычыны прымусілі Міхайлу Грышкевіча прывесці свайго сына ў гэты невялічкі павятовы гарадок. Але сталася так, як сталася. Паспяхова былі зда-дзеныя экзамены — і вось ён ужо вучань Вілейскай прыватнай рускай гімназіі.

Жылося цяжка. Каб паспяхова вучыцца, трэба было шмат працаваць. Як успамінаў ён сам, даводзілася спецыяльна класціся на вузкую лаву, каб доўга не спаць, а хто хоць раз спазнаў «прыемнасць» такога адпачынку,

ведае, што перавярнуцца на другі бок, не прачнуўшыся, а то і не зваліўшыся, практычна не магчыма. Прыйшлося спазнаць холад і голад, якія сталі «добрымі і надзейнымі» спадарожнікамі яго маладога жыцця. Дзякаваць Богу, што дапамагалі бацькі. У той прыблізна час вучнем гімназіі быў тады яшчэ нікому не вядомы Жэня Скурко, у будучым выдатны беларускі паэт Максім Танк. Цалкам верагодна, што яны ведалі адзін аднаго, а магчыма, і сябравалі, але зараз пра тое ніхто ўжо не раскажа. Правучыўся ён у гімназіі гады два, бо ў 1927 годзе польскія ўлады зачынілі гэтую навучальную ўстанову. І вучні былі вымушаныя шукаць новыя школы, каб прадоўжыць вучобу. Некаторыя з іх, як Максім Танк, выбіралі Радашковіцкую беларускую гімназію імя Ф.Скарыны, а іншыя, як Мікалай Грышкевіч, ехалі вучыцца ў Вільню.

І вось ён у Вільні. Горад уразіў юнака веліччу і непаўторнасцю старой архітэктуры, ціхімі і ўтульнымі старымі вулачкамі, адметнасцю свайго размяшчэння, чысцінёй і спакоем.



*Алена і Мікалай Грышкевічы*

Працягваць вучобу давялося ў польскай гуманітарна-коадукацыйнай гімназіі для дарослых імя кс.Пятра Скаргі. Быў паслухмяным і старанным вучнем, бо разумеў, што гультайства яму не даруецца. Ведаў, як цяжка бацькам, якія з усіх сілаў стараліся яму дапамагчы. У вялікую палітыку таксама не лез, здагадваючыся, чым усё гэта для яго можа скончыцца. Праўда, па некаторых супярэчлівых звестках вядома, што недзе ў годзе 30-м сабраўся пайсці і нават пайшоў у СССР шукаць там лепшай долі, але, на яго вялікае шчасце, своечасова быў вернуты назад. А роднаму брату не пашанцавала. Ён перайшоў савецка-польскую мяжу і след па ім згубіўся. Ненажэрны махавік сталінізму рабіў сваю страшную справу. Паступова наладжваўся быт, з'явіліся добрыя і надзейныя сябры-аднадумцы. Здавалася толькі жыві і радуйся, але не, побач са шчасцем заўсёды гора ходзіць. Прыйшло яно і ў сям'ю Грышкевічаў. Цяжка захварэў, надарваўшыся на працы, бацька. Не дапамагалі ні традыцыйныя сялянскія лекі, ні прафесійныя дактары, а праз нейкі год яго і зусім не стала. Іншы на месцы Мікалая апусціў бы рукі, махнуў на ўсё і вярнуўся б дамоў. Іншы — толькі не Грышкевіч. Аднойчы абранаму шляху стараўся не здраджваць, а даводзіць распачатае да канца. Значна пазней у адным з лістоў да жонкі напіша: «А падумаеш цяпер часамі, нашто толькі працаваў, канчаў за чатыры гады гімназію, паўгалодным, але за чатыры гады ў ліку сярэдніх, калі не лепшых, універсітэт. Меў ідэалы, за іх цярпеў пры Польшчы, арганізаваў школу, каб моладзь не ішла да немцаў на работу, у паліцыю, каб умела працаваць для свайго народа, ратаваў перадавых людзей, але ўсяго так і не зразумеў, што трэба».

У 33-м годзе атрымаў пасведчанне аб заканчэнні гімназіі і ў тым жа годзе становіцца студэнтам фізіка-матэматычнага факультэта Віленскага універсітэта імя Стафана Баторыя. Пра гэты перыяд жыцця звестак захавалася яшчэ менш. Пры ўсім жаданні нам не ўдалося знайсці дакументаў, якія пацвярджалі б нашыя меркаванні аб тым, што ён быў актывістам Беларускага Студэнцкага Саюза ці якой іншай беларускай арганізацыі ў міжваеннай Вільні.

Універсітэт скончыў у 1938 годзе са ступенню магістра філасофіі. Нейкі час працаваў настаўнікам матэматыкі ў школах Беласточчыны, а затым выкладаў матэматыку ў ліцэі і гімназіі імя Стэфана Баторыя ў Ваўкавыску. Стаўшы на ногі, стараўся дапамагчы сваім родным, асабліва імкнуўся зрабіць нешта добрае для сястры Клаўдзіі. Жанчыне моцна не пашанцавала ў жыцці, яна выйшла замуж за мясцовага хлопца, нарадзіла двое дзетак, але муж папаўся не вельмі рупны, залішне заглядваў у чарку, а затым біўся і буяніў. Таму Мікалай і вырашыў ўзяць сына сястры Жэню да сябе, дапамог здаць экзамены ў гімназію і пасяліў у сябе на кватэры. Так і жылі яны ўдваіх, пакуль не сустрэў у трыццаць дзевятым годзе ў Вілейцы Мікалай Грышкевіч прыгожую і абаяльную дзяўчыну з роду легендарных на Вілейшчыне Валынцоў — Люсю, якая даводзілася роднай пляменніцай аднаму з кіраўнікоў клуба «Змаганне» і Таварыства Беларускай Школы Флягонту Валынцу.

У той час Вілейка была абласным цэнтрам, там выходзіла спачатку газета «Вілейская праўда», а затым «Сялянская газета», пры ёй працавала вялікая група беларускіх пісьменнікаў. Сярод іх былі М.Танк, Н.Арсеннева, М.Машара, М.Шыла, Г.Новік і польскі паэт Ежы Путрамант. У гэтым дружным і творчым калектыве працавала карэктарам Люся Валынец. За яе плячыма была вучоба ў Радашко-віцкай, Клецкай, Наваградскай беларускіх гімназіях, змаганне за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне беларускага народа. Была вельмі таварыская, простая і шчырая. З першай сустрэчы яны пакахалі адзін аднаго, а праз нейкі час пабраліся шлюбам. Жылі ў Ваўкавыску, дзе Грышкевіч працягваў працаваць настаўнікам матэматыкі, толькі ўжо ў савецкай школе.

21 чэрвеня 1941 года маладая сям'я выбралася ў госці да сваякоў на радзіму. У Лідзе іх дагнала вайна. Нямецкія самалёты разбамбілі цягнік, якім яны ехалі, і ім толькі цудам удалося вырвацца з тога пекла. З цяжкасцю дабраліся да Вілейкі, дзе ўжо панавалі немцы. Бясконцыя здзекі над мірным насельніцтвам, расстрэлы прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі пад маркай савецкіх актывістаў, прымусовы вываз на катаржныя работы ў Нямеччыну сталі звычайнай з'явай. Няглядзячы на ўсё гэта — жыццё працягвалася.

Восенню 41-года на Беларусі пачалі адчыняцца першыя беларускія пачатковыя і сярэднія школы. У кастрычніку таго ж года быў створаны інспектарыят беларускіх школ пры Генеральным камісарыяце Беларусі. У першым навучальным годзе было адчынена каля трох тысяч пачатковых школ, дзе займалася 270 тысяч вучняў і працавала 9 тысяч настаўнікаў. Для патрэб выкладчыкаў пачаў выдавацца часопіс «Беларуская школа», а ў снежні ў Менску адбыўся з'езд усіх акруговых і павятовых школьных інспектараў. У другім навучальным годзе (1942-43г.г.) былі распрацаваныя праграмы для прагімназіяў, прафе-сійных школ і настаўніцкіх семінарыяў. Былі адчыненыя 5 прагімназіяў, 6 настаўніцкіх семінарыяў, 16 прафесійных школ рознага тыпу. У тым жа навучальным годзе семінарыя і тры прагімназіі мелі выпускныя класы. Нешта падобнае, маецца на ўвазе ажыўленне школьніцтва на Беларусі, адбывалася і ў Вілейцы.

У снежні 1942 года ў зале Беларускага Народнага Дома афіцыйна была адчыненая Вілейская беларуская настаўніцкая семінарыя. Ініцыятарам яе стварэння і дырэктарам стаў Мікалай Грышкевіч. Перад гэтым былі праведзеныя ўступныя экзамены, дзе найбольшая ўвага звярталася на матэматыку. Прымаліся юнакі і дзяўчаты, якія мелі за спіной сем класаў савецкай школы ці нясконачаную польскую гімназію. Семінарыстамі сталі 165 чалавек. Зараз цяжка сказаць, наколькі добраахвотна стаў дырэктарам Мікалай Грышкевіч, але адно дакладна: ён шчыра хацеў дабра свайму народу, а дзеля гэтага гатовы быў і рызыкаваць. Яго любілі ўсе. Пачынаючы ад семінарыстаў да настаўнікаў і заканчваючы бліжэйшымі сваякамі і звычайнымі суседзямі-сялянамі. Добры, справядлівы, ён любіў тонкі гумар, мог убачыць розныя недахопы, зрабіць заўвагу, але не рабіць з гэтага праблемы. Ды і знешне ўнушаў давер і павагу. Крыху вышэй сярэдняга росту, каржакаваты, з вялікімі залысінамі на высокім ілбе, з прыгожымі карымі вачыма, у якіх заўсёды свяцілася хітрая і ўсмешлівая іскрынка. Як успамінае былая вучаніца Алімпіяда Глебаўна Гулецкая: «Мікалай Грышкевіч любіў дапамагаць людзям простым, вясковым хлопцам і дзяўчатам, не з бліскучымі, а звычайнымі сярэднімі ведамі, але затое маючымі вялікае жаданне да вучобы. Спадар дырэктар быў вельмі зацікаўлены абараніць моладзь ад вывазу на прымусовыя работы ў Нямеччыну».

Мусіць, у гэтым і палягае галоўная прычына стварэння на Беларусі такога добра арга-нізаванага беларускага школьніцтва пад час апошняй вайны. Акрамя таго, школа давала вельмі добрыя і трывалыя веды і старалася выхаваць сапраўдных патрыётаў роднай зямлі.

Будынак семінарыі размяшчаўся на тэрыторыі, дзе зараз знаходзіцца гарадская школа № 3. Ён быў двухпавярховы, драўляны, са скрыпучай лесвіцай і вялікімі вокнамі. Вучням і настаўнікам даводзілася шмат займацца рознымі гаспадарчымі справамі, але, безумоўна, найбольшая нагрузка клалася на плечы дырэктара. Даводзіцца толькі здзіўляцца, як ён усюды паспяваў.

Семінарысты вывучалі беларускую мову і літаратуру, каліграфію з методыкай, нямецкую мову, псіхалогію, алгебру, геаметрыю, фізіку, хімію, біялогію, геалогію з мінерало-гіяй, гісторыю, геаграфію, а таксама былі такія прадметы, як ручная праца і спевы з методыкай. Дзякуючы сваім асабістым якасцям дырэктару ўдалося падабраць добры і высокапрафесійны настаўніцкі калектыў. А гэта — Лявон Марцыонка (беларуская мова), Пётр Манькоўскі (мінералогія), Пётр Шлойда (першы курс матэматыкі), А. Мацэральнік (фізіка), Т. Сухая (прыродазнаўства), П. Качмар (нямецкая мова), І. Чарняўскі (геаграфія), М. Коўшык і В. Юдо (гісторыя). Сам дырэктар выкладаў матэматыку і хімію на другім курсе семінарыі. Пасля дырэктара найбольшым аўтарытэтам карыстаўся Лявон Ігнатавіч Марцыонка. Гэты чалавек быў глыбока дасведчаны ў роднай гісторыі і культуры. Заўсёды размаўляў на крышталёва чыстай беларускай літаратурнай мове, чаго патрабаваў і ад іншых. Актыўна працавалі пры семінарыі розныя аматарскія гурткі, а іх было, як на той час, даволі шмат: інструментальны, музычны, танцавальны, рысавальны, харавы, літаратурны і драматычны. Апошнім былі пастаўленыя п'есы: «Пінская шляхта», «Раскіданае гняздо», «Чорт і баба», «Паў-лінка», «Пашыліся ў дурні», «Збянтэжаны Саўка», «Наталка-Палтаўка» (у вакальным выкананні) ды іншыя. Адзначаліся народныя і нацыянальныя святы.

І ва ўсіх пачынаннях самы актыўны ўдзел браў Мікалай Міхайлавіч Грышкевіч, а поруч з ім, як надзейны сябра і памочнік, заўсёды крочыла яго жонка Алена Дзмітрыеўна. Грышкевіч быў як нястомны рухавік, які працуе сам і дае штуршок жыцця іншым. За гэта яго неаднаразова папярэджвалі, як немцы так і партызаны. Толькі пасля вайны сталі вядомыя факты, што быў партызанскі загад забіць яго і нават быў знойдзены выканаўца гэтага забойства. Ім павінен быў стаць былы вучань семінарыі Жорык Брыль. Расказвалі, што аднойчы ён чакаў дырэктара, схаваўшыся ў кусты з пісталетам у руках недалёка ад той сцежкі, дзе заўсёды праходзіў Грышкевіч, ідучы па дарозе ў школу. І вось ён убачыў дырэктара. І не паднялася рука, каб зрабіць гэта злачынства. Аўтарытэт дырэктара быў не ўяўны, а вялікі і сапраўдны.

Восенню 1943 года пры семінарыі была створаная маладзёжная арганізацыя «Саюз Беларускай Моладзі». Кіраўніком яе стаў Пётра Сценнік, пра якога вельмі хораша піша ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш. Ніякага прымусу з боку дырэктара і настаўнікаў не было, справа была цалкам добраахвотная, але ўступілі ў яе амаль дзевяноста працэнтаў семінарыстаў. Некаторыя пазней папоўнілі партызанскія атрады: Л. Жоўтка, А. Жоўтка, М. Валынец, А. Акрэм, П. Маліноўскі і іншыя, якія пайшлі ў брыгаду пад кіраўніцтвам Андрэя Валынца.

У кастрычніку будынак семінарыі занялі немцы пад вайсковы шпіталь, даўшы ўзамен непрыстасаванае і вельмі дрэннае памяшканне, але пакарыстацца з яго доўга не здолелі. Цёмнай лістападаўскай ноччу двое семінарыстаў Жоўтка і Маліноўскі ўзарвалі гэты будынак. Іх затрымалі, а 4 лістапада таго ж года публічна павесілі на гарадскім пляцы.

Летам 1944 года нямецкія войскі пачалі пакідаць Беларусь. Чырвоная армія падыходзіла да Вілейкі. Паўстала пытанне: застацца ці выязджаць? Мікалай Грышкевіч вырашыў застацца, бо ніякай віны за сабой не адчуваў. Адразу пасля вызвалення працаваў інспектарам Вілейскага аблана, часта наведваючы раёны вобласці. Пад час адной з такіх паездак быў арыштаваны. Сядзеў у Вілейскай турме. Вясной 45-га быў асуджаны на доўгі тэрмін зняволення і высланы з Беларусі. Пакаранне адбываў на Поўначы...

Была вясна 1946 года. У далёкім і халодным Магадане на скрыпучых і цвёрдых нарах паміраў чалавек. Тры дні таму яму споўнілася 40. Гэта быў Мікалай Міхайлавіч Грышкевіч. На вуліцы як ашалелая раўла завіруха, вецер здавалася хацеў перакуліць гэтыя невялічкія астраўкі чалавечага жылля, а снег назаўсёды пахаваць пад сваёй халоднай і белай коўдрай. Пра што думалася ў апошнія дні Мікалаю Грышкевічу? Каго ўспамінаў? Напэўна, пра свайго маленькага сыночка Дзімачку і дачушку Танечку, пра сваю прыгажуню жонку Люсю, сваю радню і сваю Беларусь. Пра тое, што не ўсё здолеў зрабіць і дарабіць, пра сваё паламанае жыццё, пра свой нешчаслівы лёс. Як хацелася яму стаць птушкай і не звяртаючы ўвагі на адлегласць і холад паляцець на Ра-дзіму, каб убачыць яшчэ раз сваю Мядзель-шчыну і спачыць назаўсёды ў сваёй роднай і дарагой зямлі. Але не было крылаў і не ставала сілы, каб даляцець да яе. Заставалася толькі надзея, што некалі, як піша паэт, яму ўдасца зірнуць на сваю зямлю з вышыні птушынага палёту і сказаць:

Дык дазволь хоць на міг
Глянуць тады на цябе з вышыні
Белай сняжынкай тваёй зімы
Сіняй дажджынкай тваёй вясны.

Даруй нам, Госпадзе! Памёр Мікалай Міхайлавіч Грышкевіч 9 мая 1946 года.

***Міхась КАЗЛОЎСКІ.***

*МОВА ЗЯМЛІ НАШАЙ*

*Аляксандр НАРКЕВІЧ*

# ВЕРНЕМ СТРАЧАНАЕ

## Запрашэнне да падарожжа

Якую незвычайную асалоду кожнаму з нас дораць паездкі па роднай зямлі! Параўнаць радасць сустрэч з разнастайнымі гарадамі, пасёлкамі і вёскамі можна, хіба што, з чытаннем цікавай кнігі. Сапраўды, едзеш, быццам мёд п'еш, бо табе прыветна ўсміхаюцца цудоўныя паселішчы, якія шчодра рассыпаныя працавітай рукой народа-стваральніка па маляўнічых берагах азёр ці звілістых рэчак, або ўздоўж шэрых стужак дарог.

Бяру на сябе прыемныя абавязкі гіда і запрашаю цікаўных чытачоў да падарожжа па родным краі, каб адчуць голас зямлі, мову продкаў у мілагучных назвах-тапонімах. Кавалі: узгадваецца звон малаткоў аб кавадла, дзе ствараліся і прылады працы, і баявая зброя. Рудня шуміць горнамі, якія плавілі балотную руду. Чабатары даносяць ляскат малаткоў умелых шаўцоў. Гута ўваскрашае даўнейшы шклозавод, дзе сапраўдныя чарадзеі стваралі непаўторную прыгажосць: ад цудоўнага посуду да незвычайных упрыгожванняў. Муляры, Суднікі, Ганчары таксама гучаць урачыстым гімнам людзям працы. Затым Дварэц, Каралеўцы, Засценкі, Сутокі, шматлікія Залессі, Арэхаўкі, Гарадзішчы, Баркі, Старынкі, Селішчы, Слабодкі...

Усё гэта, пісанае чорным па белым, лёгка прачытваецца ў Кнізе Жыцця, бо яно нашае, роднае, беларускае. Нават Дзядзічы ў Вілейскім раёне... А мо, правільней Дзедзічы. Што ў старыну азначала дзедзіцкае ўладанне, якое перадавалася ў спадчыну. Кібуці?! — здзіўлена чытаем у Валожынскім раёне. А што, магчыма, тут калісьці была яўрэйская гаспадарчая суполка — кібуц.

Але ў час падарожжа натыкаешся на такую безліч незразумелых назваў-тапонімаў, што вымушае звыклыя любоў і цікавасць да Радзімы падмацаваць веданнем яе гісторыі. Паверце, гэта будзе зусім не лішнім.

## Галасы сівой мінуўшчыны

Лотва, рака і вёска на Мядзельшчыне, выклікаюць першае непаразуменне, бо палякі Лотвай называюць Латвію. А пры чым жа тут мы? Выручыць веданне гісторыі. Да прыходу славян на тэрыторыю сучаснай Беларусі тут жылі балцкія плямёны. У паўночнай частцы размяшчалася Лотва — продкі сучасных латышоў. Міжрэчча Нёмана і Нарэва насялялі яцвягі. А ў цэнтры, у міжрэччы Нёмана і Віліі, знаходзілася старажытная Літва. Славяне пачалі засяляць Беларусь на рубяжы



VI-VII стагоддзяў. Дрыгавічы аселі сярод яцвягаў, крывічы сярод лотвы, а радзімічы — у Пасожжы. Але перасяленцы не замахнуліся на самае святое — на назвы рэк і азёр, не перайменавалі іх. Вось чаму 90% іх маюць незразумелыя для нас балцкія назвы: Нарач, Вілія, Уша, Волма, Лоша і інш., якія перадаліся паселішчам, заснаваным на іх берагах. Так, на Палаце вырас Полацк, на Менцы — Менск, на Ашмянцы - Ашмяны, на Нарачанцы — Нароча і г. д.

Выразілі перасяленцы і настальгію па родных гнёздах. Заснаванаму пад Менскам паселішчу далі імя былога — Ракаў (Валожынскі раён). А дзве вёскі Паморшчына ў тым жа раёне нагадваюць якраз тое далёкае Памор'е, адкуль перасяліліся крывічы.

Зразумела, што першыя паселішчы ўзнікалі на берагах рэк і азёр, якія паілі і кармілі жыхароў, з'яўляліся надзейнымі шляхамі зносін. Пагэтаму яны сваімі назвамі гавораць з намі на мове далёкіх продкаў, увасабляючы гістарычнае мінулае нашай краіны.

## Латвія і Літва... на Беларусі

Цяпер, узброеныя няхай сабе і крыху спрошчанымі ведамі аб лотве, мы лёгка расшыфруем на Вілейшчыне такія назвы вёсак, як Лыцавічы, Лоцевічы, Лоўцавічы, Латыгаль і Залоцькі. Пра Залоцькі, праўда, давядзецца яшчэ сказаць у свой час. А Латыгаль — так звалі усходнюю частку Латвіі — увасоблена ў імені вёскі, ды не адной. Падобныя назвы сустракаюцца даволі часта на Беларусі. Латыгава, Латыголава, Латыголічы... Відаць, у гэтых назвах гучыць памяць аб выхадцах з усходняй Латвіі, якія пасяліліся ў гэтых вёсках. А перасяленцы з Відземе, другой вобласці Латвіі, заснавалі Відзы, Відзішкі, Відзы Лаўчынскія ў Браслаўскім раёне, Відзеўшчыну ў Маладзечанскім і інш.

Лічыцца, што выхадцы з заходняй Літвы, Жэмайціі заснавалі Жамойск (Докшыцкі раён), Жамойцішкі (Воранаўскі раён) і інш., а прадстаўнікі адной з груп літоўскага насельніцтва, даўновы, — Дайнаву ў Валожынскім раёне, Дайнаўку ў Ашмянскім і інш. Атрымліваецца, што Латвію і Літву мы сустракаем на Беларусі як водгук з глыбінь стагоддзяў.

Калі ехаць з Маладзечна ў Валожын, рэхам старажытнасці адгукнуцца спачатку Палачаны, затым — суседняя Літва. Яшчэ па адной Літве сустрэнем у Стаўбцоўскім і Уздзенскім раёнах, Літвічы — у Лагойскім. Усё гэта — неўміручыя помнікі той старажытнай Літвы, што ляжала паміж Менскам і Наваградкам. Продкі беларусаў, стварыўшы на зары нашай гісторыі Вялікае княства Полацкае, пакінулі сваім нашчадкам Палачаны ў Маладзечанскім раёне і Палачанку ў Валожынскім, шматлікія Крывічы, рассыпаныя на поўначы Беларусі ў Ашмянскім, Мядзельскім, Смаргонскім і іншых раёнах.

## Летапіс часу: першыя скажэнні і страты

Сярэднявечча раскінула паселішчы, якія адлюстроўваюць у сваіх назвах тагачасныя рэаліі — узнікшае ў сярэдзіне XIII ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае. З таго часу нашу Радзіму нашы продкі называлі Літвой, а сябе — ліцвінамі. Вось і нагадваюць нам пра гэта Ліцвінка ў Крупскім раёне, Ліцвінкава ў Лагойскім, Ліцвінкі ў Вілейскім, Ліцвяны Уздзенскага раёна і шматлікія Ліцвіновічы сваімі прозвішчамі.

Пасля Люблінскай уніі (1569 г.) і ўтварэння Рэчы Паспалітай пайшло-паехала перапісванне старонак нашай гісторыі на польскі лад. Менск, Бярэсце, Наваградак, Гародня, Татараўшчына, Хвойнікі і інш. сталі адпаведна Мінскам, Брэстам, Навагрудкам, Гроднам, Татаршчызнай, Хойнікамі... Такі паланізатарскі лёс напаткаў многія нашы гістарычныя назвы.

З канца XVIII ст. у складзе Расійскай імперыі пачалася русіфікацыя беларускіх тапонімаў. Закансерваваліся польскія скажэнні імён паселішчаў, ды яшчэ прыбавіліся зрусіфікаваныя. Некаторыя напаўняліся зневажальным сэнсам. Так горад Прапошаск стаў Прапойскам, вёска Невічы ў Баранавіцкім раёне стала Дурневічамі (цяпер Лугавая). Старажытныя беларускія назвы перакладаліся на рускую мову, што недапушчальна, і атрымалі істотныя скажэнні. Нясвіж, Бярэзань, Капыль, Мазыр, Стоўбцы,ператварыліся ў Несвіж, Беразіно, Копыль, Мозыр, Стаўбцы, а рака Нёман стала Неманам.

Гэты былі першыя адчувальныя страты ў мове нашай зямлі. (Заканчэнне будзе).

*РАДАВОД*

# ТАТАРСКАЯ СПАДЧЫНА СМАРГОНШЧЫНЫ

Спадчына кожнага народа, які насяляе наш раён, цесна пераплецена паміж сабою сваёй гісторыяй, культурай, традыцыямі і побытам. Яна мае глыбокія трывалыя карані, якія жывяць жыццёвым сокам магутны гістарычны ствол нашай Бацькаўшчыны. Літоўцы, рускія, палякі, яўрэі і іншыя народы ў сівыя часы мінуўшчыны аселі на тэрыторыі краю, захавалі сябе як этнас, знайшлі тут другую Айчыну і пакінулі вялікую колькасць помнікаў дойлідства, незабыўны фальклор, старадаўнія паданні.

Такімі ж старажытнымі насельнікамі краю, якія зведалі радасць стваральнай працы і горыч разбурэнняў страшэнных войнаў, зберaглі асноўныя духоўныя і матэрыяльныя каштоўнасці і пранеслі іх праз віхуры ліхалеццяў, сталі беларускія татары. Першыя звесткі аб з'яўленні гэтых людзей на беларускіх землях можна аднесці да пачатку XIV стагоддзя. У 1319 годзе яны прымалі ўдзел у вайне Вялікага Княства Літоўскага (тагачаснай Беларускай дзяржавы) з крыжакамі. Спакон вякоў татары славіліся сваім ваенным майстэрствам і храбрасцю, таму вялікія князі Гедымін, Кейстут, Альгерд запрашалі іх на вайсковую службу. Пасля паспяховых паходаў Вітаўта ў Крым і разгрому Залатой Арды ў 1395 годзе пачалося буйное непрымусовае перасяленне татар на нашы землі. Выконваючы ролю абаронцаў ад крыжацкіх навал, яны шчыльным кальцом аселі вакол замкаў у Вільні, Троках, Медніках, Лідзе, Навагародку і Крэве.

З тых даўніх часоў вядзецца гісторыя жыцця і дзейнасці гэтага люду на нашай Смаргоншчыне. Ажаніўшыся з беларускамі, яны былі надзеленыя зямлёй узамен на абавязак несці вайсковую службу на карысць вялікага князя і ўсёй дзяржавы.

Шматлікасць тагачаснага татарскага насельніцтва добра праглядваецца ў сучасных назвах, тапаніміцы асобных навакольных мясцін Крэўскага рэгіёна. У народнай памяці і па сённяшні дзень прылеглая да Крэўскага замка вуліца ўспрымаецца як Татарская, бо такі назоў яна мела да перайменавання.

Бярэ свае вытокі каля в. Цярэшкі і амаль 11 км па тэрыторыі раёна нясе свае воды рачулка Татарка. У 1490 годзе Багдан, сын Алі–Бердзея, родапачынальнік роду Папарскіх атрымаў у спадчыну вёску Папары, і ёсць падставы меркаваць, што тая частка паселішча, у якой быў закладзены панскі двор, з цягам часу пачала называцца Татаршчынай. Утварыліся ад цюркскіх, у асноўным, ад татарскіх каранёў і былі афармленыя на ўзор тыпова беларускіх назвы такіх населеных пунктаў, як Ардашы, Асаны, Асманаўка, Базары, Балобаны, Гамзічы, Гайлешы, Дахны, Качаны, Касымава, Малявічы, Чаркасы і шмат іншых. Невыпадковым стала і наданне па магдэбургскім праве мястэчку Крэва геральдычнага знака "Ляліва": выява ў блакітным полі срэбнай шасціканцовай зоркі і залатога маладзіка. Адпавядаючы мусульманскай сімволіцы, гэты герб быў шырока распаўсюджаны і сярод шляхецкіх татарскіх родаў тутэйшых мясцін. Варыянты гэтага знака і цяпер можна пабачыць на помніках татарскіх мізараў (могільнікаў) ля Ластаі, Гамзіч, Даўбучак.

За ўсе часы татары спраўна выконвалі свой службовы абавязак, аб чым сведчыць удзел воінаў і татарскіх харугваў у Грунвальдскай бітве, іншых паходах і сутычках ВКЛ і Рэчы Паспалітай супраць захопнікаў. Не выпадкова, што за добрасумленную і мужную працу яны карысталіся асаблівымі льготамі ў паўсядзённым жыцці. У інвентары Смаргоні і Смаргонскай воласці, якія належалі кн. Радзівілу ад 24.06.1788 запісана: "...У адпаведнасці са старым статутам для татар і асоб, прыпісаных да татараскай павіннасці, яны вызваляюцца да прадугледжаных інвентаром павіннасцей, як ад ад працы на талацэ, ад удзелу ў рамонце млыноў, ад нясення аховы, ад паездак у дарогу і выканання розных даручэнняў, пароўну з гарадскім войтам, выконваючым паслугі для гасподскага двара".

У час паўстання Т. Касцюшкі наш зямляк Мустафа Ахматовіч узначаліў 4–ы полк Прыгранічнай Стражы і разам з кіраўніком паўстання адважна абараняўся ў апошняй для абодвух бітве пад Мацяёўцамі. Пры ўваходзе Польшчы ў склад Рускай дзяржавы, без воінаў–татараў не абыходзілася ні адна значная ваенная кампанія рускай арміі. На даўбуцкім мізары знайшоў свой апошні прытулак Канстанцін Эліят Крычынскі (25.09.1847–05.04.1924), адзін з 18 татарскіх генералаў, якія знаходзіліся перад першай сусветнай вайной на службе ў рускім войску. Свой вайсковы абавязак у гэты час неслі сотні штабс–капітанаў, маёраў, палкоўнікаў, і гэта павінна ўсведамляцца пры вызначэнні ролі татарскіх воінаў у абароне незалежнасці нашай Радзімы.

Акрамя багатай ваеннай гістарычнай спадчыны, мелі гэтыя насельнікі краю і цікавыя помнікі народнага дойлідства, самым знакамітым і значным з якіх з'яўлялася адна са старажытных святыняў іслама на землях Усходняй Еўропы – мячэць у в. Даўбучкі. У гэтым годзе спаўняецца 410 год з часу першага ўзгадвання мясцовага прыходу ў дакументах (1588). Гісторыя самой мячэці XVII–XVIII ст. у пісьмовых крыніцах не адлюстравана, і таму першыя сведчанні аб ёй адносяцца прыкладна да 1735 г., калі пабудаваная ў недалёкай вёсцы Сялец мячэць была перавезеная на месца разбуранай святыні, што заставалася яшчэ аўтарытэтам даўбуцкага прыхода.

Вось як амаль праз паўтара стагоддзя ў 1886 годзе выглядала яна ў апісанні краязнаўцы Чэслава Янкоўскага: "... Ля дарогі... стаіць мячэць з чырвоным купалам, аздобленая крытай галерэяй, якая абапіраецца на белыя слупкі, зробленыя ў візантыйскім стылі".

Мячэць была пабудаваная ў традыцыях, якія ўзыходзяць каранямі да перабудаванай Канстанцінопальскай Сафіі. Зрубны аб'ём быў пакрыты чатырохсхільным дахам, які пераходзіў у высокі дванаццацігранны купал. З двух бакоў мячэць была абнесеная галерэяй, у куце ўзвышаўся трох'ярусны мінарэт. Варта адзначыць, што мумібір – узвышаная частка, з якой чыталіся малітвы і казаліся прамовы ў асабліва важных выпадках – у даўбуцкай мячэці меў 9 прыступкаў і сведчыў аб значнасці помніка, бо звычайна мумібір налічваў тры–чатыры прыступкі.

Нездарма даўбуцкія татары называлі сваю святыню джама (што значыць "галоўная").

Няўмольны час і людская абыякавасць не пашкадавалі яе, і цяпер нішто не нагадвае аб існаванні тут гэтага выдатнага цудоўнага помніка драўлянага дойлідства.

І ўсё ж мячэць будзе захаваная і адрэстаўрыраваная ў новым месцы – у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту пад Мінскам.

Так выглядаюць напрыканцы XX стагоддзя некаторыя унікальныя вынікі татарскага асадніцтва для нашай зямлі.

Час бяспамяцтва і забыцця самабытнай спадчыны народаў, якія падзялілі з беларусамі гістарычны лёс, скончыўся.

***Уладзімір ПРЫХАЧ,***
***Смаргонь.***

## ЗВАНЫ ПАМЯЦІ

Я ў дзённік свайго жыцця
На пажоўклых кляновых лістах
Напішу боль свайго забыцця,
Што жыве ў царкоўных званах
І што з кожным ударам ляціць,
Рвецца ў неба ў вашыя душы,
Іх шукаючы, птушкай звініць...
Нотуключную слухаць я мушу:
Каб мне помніць, каб вас не забыць,
Каб адбіліся твары ў сэрцы.
Кулакамі на могілках у грудзі не біць,
А схіліць галаву — продкі, верце!
Вы паверце рукам на замшэлых каменнях,
І вачам, што шукаюць ваш позірк у небе
Я прад вамі з малітвай стаю на каленях
Ці ў золаце-срэбры, ці ў зрэб'і.
Я малюся за вас і за вашыя душы,
Можа словы мае вас не ўзрушаць...
Ды цяпло маіх рук грэе холад каменняў,
Я стаю перад вамі, стаю на каленях!...

*Алеся ЦІМОХІНА.*

ГАДАВІНЫ

## Юбілей Астраўца

Сёлета, згодна з пісьмовымі крыніцамі, спаўняецца 530 гадоў з часу першага ўпамінання цяперашняга раённага цэнтра — гарадскога пасёлка Астравец. Тут у 1468 годзе ваявода Гаштольд заснаваў касцёл і кляштар дамініканцаў. Да расійскай анексіі 1795 года Астравец уваходзіў у Віленскае ваяводства Вялікага Княства Літоўскага і належаў у розныя часы князям Гаштольдам, Карыцкім і Корсакам. Родам з Астравеччыны беларускі паэт Казімір Сваяк (ксёндз Кастусь Стаповіч) і сусветнавядомы навуковец, гісторык-краязнаўца Адам Мальдзіс.

*Алесь ЦАДКО*

ГРОШЫ

## У РАСІІ — ДЕНЬГІ, У ПОЛЬШЫ — ПЕНЁНДЗЫ, А Ў НАС — ГРОШЫ.

Адным з яскравых сведчанняў агульнаеўрапейскага развіцця нашай старажытнай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага служыць яе даволі развітая грашова-фінансавая сістэма. Што сабой яна тады ўяўляла, якія грашовы знакі хадзілі ў абарачэнні, у тым ліку і ў нашым рэгіёне так званай Павілейскай Літвы, далей гаворка.

Як сведчаць гістарычныя звесткі, сабраныя нашымі археолагамі і гісторыкамі, у першую чаргу вядомым даследчыкам нумізматыкі В.Рабцэвічам, яшчэ ў безманетны перыяд у Полацкім Княстве стаў хадзіць свой тып грыўны, адрозны па сваіх памерах ад Кіеўскай і Наўгародскай. А прыкладна 600 гадоў таму на нашай тэрыторыі ўсталявалася Полацка-Віцебская грашова-вагавая сістэма. Самай моцнай і распаўсюджанай манетай таго часу стаў "грош", які ў XVI-XVII стагоддзях чаканіўся манетнымі дварамі ў Вільні, Горадні ды Коўне, і на адваротным баку якога да Люблінскай уніі 1569 года знаходзілася выява дзяржаўнага герба "Пагоня". Тады ж на Беларусі і ў Польшчы ўжываўся і адпаведнік малога дэнарыя (1/18 гроша) — "пенязь". Падобнай да яго была і маскоўская "дзеньга" (ад татарскага ценга — срэбная манета). Расійскі рубель упершыню ўпамінаецца ў XIII стагоддзі. А ў XV-пачатку XVI ст. рубель на Беларусі адпавядаў сотні нашых грошаў. Характэрана, што назва дробных манет стала атаясамляцца ў нас і нашых суседзяў з дзяржаўным валютным эквівалентам. Так на Беларусі — "грош" і грошы, у Расіі "дзеньга" — дзеньгі, у Польшчы "пенязь" — пенёндзы.

У 1518 годзе ў Чэшскім каралеўстве (Багемія) у горадзе Іахімсталь баронамі Шлік з мясцовых пакладаў срэбра стаў "біцца" іахім-сталер, універсальны еўрапейскі намінал, прататып будучага амерыканскага даляра. Праз дзесяць гадоў ён ужо, трансфармаваўшыся ў скарочаную назву талер, пачынае хадзіць і на Беларусі, а з 1564 года яго б'юць на нашых манетных дварах (у Польшчы — з 1580г.). Самай распаўсюджанай білоннай ці разменнай манетай таго часу ў нашай дзяржаве стаў "салід" ці ў простанароддзі — "шэлег", а самай дарагой і маладаступнай для большасці насельніцтва — залаты дукат.

Сведчаннем хаджэння на Беларусі вышэйпамянёных наміналаў служыць выкарыстанне іх назоваў у народным фальклёры, у творах Ф.Багушэвіча і Я.Купалы. Распаўсюджаныя, асабліва ў нашым рэгіёне, і такія прозвішчы як Шэлег і Пенязь. Акрамя гэтага на тэрыторыі нашай краіны былі знойдзеныя шматлікія манетныя скарбы. Так у Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі захоўваецца знойдзены ў 1974 годзе Касцяневіцкі манетны скарб. Вядомыя таксама Мядзельскі, Гальшанскі, Крэўскі. Вялікі скарб адшуканы і ў вёсцы Ваўчкі Маладзечанскага раёна. Але самай значнай для нашага рэгіёна знаходкай з'яўляюцца 5862 манеты XVI-пачатку XVII стагоддзяў, знойдзеныя ў 1971 годзе ў гэтым жа раёне ў вёсцы Мароські. Гэты скарб, як і скарб вёскі Ваўчкі, зберагаецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне.

*Алесь ЦАДКО.*



## БЫВАЙ, ДЗЯДЗЬКА ЯНКА!

Са спазненнем дайшла да нас сумная вестка. На 75-м годзе жыцця памёр выдатны чалавек, настаўнік, грамадзянін Іван Міхайлавіч Кукель. Як асеннія журавы адлятаюць у апошні вырай, а пазней вяртаюцца назад, так і людзі назаўсёды пакідаюць сваю зямлю, каб потым застацца з ёю навечна.

Ён належаў да той нешматлікай нацыянальнай інтэлігенцыі, якая ведала і цаніла ўменне трымаць слова, заставацца заўсёды верным ідэалам сваёй маладосці, у сілу сваіх магчымасцяў верна служыць сваёй маці-Беларусі. На вялікі жаль, такіх людзей застаецца ўсё меней на нашай шматпакутнай зямлі. Яны паманеньку адыходзяць у нябыт, пакінуўшы нам, іх нашчадкам, запавет любіць і шанаваць сваю мову, традыцыі і звычаі. Пакідаюць памяць...

Нарадзіўся Янка Кукель 17 верасня 1923 года ў вёсцы Капачы Маладзечанскага раёна ў працавітай сялянскай сям'і. З дзяцінства спазнаў смак цяжкой, але такой пачэснай працы земляроба. Праўда, з гадамі прага да вучобы ўзяла верх. Скончыў польскую пачатковую школу, а затым, у 1943 годзе, Віленскую беларускую настаўніцкую семінарыю. Па вайне быў рэпрэсаваны. У канцы 40-х вярнуўся на Беларусь. У 1952 годзе скончыў Тракайскую настаўніцкую семінарыю, а ў 1956 — Нова-Віленскі дзяржаўны настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам фізікі і матэматыкі ў школах Маладзечанскага раёна, горада Маладзечна. У 1976 годзе завочна скончыў фізіка-матэматычны факультэт Віленскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. З 1983 года на пенсіі, але працягваў працаваць выкладчыкам прапоўнага навучання ў Маладзечанскай СШ № 5. Памёр Іван Міхайлавіч 6 ліпеня 1998 года і пахаваны ў вёсцы Груздава.

Як асеннія журавы адлятаюць у вырай, а пазней вяртаюцца назад, так і людзі на-заўсёды пакідаюць сваю зямлю, каб потым застацца з ёй навечна. Адыходзяць ад нас людзі, якія ў цяжкія гады няволі ратавалі наш гонар, былі сумленнем нашай нацыі, нашай Зямлі. А мы часта, а калі больш шчыра, амаль заўсёды, нават не знойдзем часу, каб правесці іх у апошнюю дарогу, сказаць добрае чалавечае слова на развітанне. Агульнавядома адно, калі чалавек не паважае памяць сваіх папярэднікаў, то гэтым самым — не паважае і сябе.Дарый нам, Іван Міхайлавіч, усе нашы правіны перад табой. Бывай, дзядзька Янка!

*Маладзечанскае аддзяленне Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

ЛІТАРАТУРНЫЯ ВЫДАННІ

# Пра альманах "Нарач"




Сёлета спаўняецца 40 гадоў са дня выхаду ў свет апошняга нумару літаратурна-мастацкага альманаха Маладзечанскага абласнога літаратурнага аб'яднання "Нарач". Выдаваўся на базе абласной газеты "Чырвоны сцяг". Выйшлі два выпускі: кніга першая (1957), кніга другая (1958). На старонках гэтага выдання былі змешчаныя апавяданні вядомых і пачынаючых пісьменнікаў Маладзечанскай вобласці. Сярод іх творы М.Гроднева, А.Чарнышэвіча, М.Чапрасава, М.Квочкіна, а таксама вершы М.Машары, Г.Новік, Р.Няхая, В.Носава, М.Сіскевіча, Дз.Пучынскага, гумарэскі і байкі М.Пужэвіча, С.Яцукевіча. Альманах змяшчаў артыкул пра Янку Купалу М.Ермаловіча "Вялікі песняр чалавека працы", успаміны С.Будзько пра лютаўскую рэвалюцыю "Першыя крокі", Г.Лысова "Крылаты волат" пра подзвіг М.Гастэлы ды іншыя матэрыялы. Афармленне і малюнкі для альманаха рабіў мастак Зміцер Крачкоўскі. У склад рэдакцыйнай калегіі ўваходзілі: В.Батурын (рэдактар), Ф.Ізмайлаў, М.Караленка, Я.Рыклін, Р.Сабаленка, А.Хацкевіч.

*Я. Р.*

ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ

### СМЯТАННЫ ДЭСЕРТ

Дабра расцерці шэсць жаўткоў з дзвюма лыжкамі цукру, усыпаць чатыры лыжкі сухой мукі, добра перацерці і дадаць чатыры лыжкі смятаны, усё разам яшчэ раз перацерці. Узбіць шэсць бялкоў, змяшаць з перацёртай масай, пакласці ў намазаную маслам і абсыпаную сухарамі форму і паставіць на паўгадзіны ў печ (духоўку).

Порцыя на сем-восем чалавек.

### МЯСА, ЗАПЕЧАНАЕ СА СМЯТАНАЮ І СЫРАМ

Распусціць лыжку масла і падсмажыць у ёй пару скрышаных цыбулін, змяшаць з лыжкаю мукі і яшчэ крыху падсмажыць. Развесці гэта паўкварта (0,35 л) смятаны, закіпяціць, пасля дадаць чатыры жаўткі, паперчыць і заліць тым зваранае, прыгожа пакроенае і пакладзенае ў місу мяса ялавічыны. Можна, акрамя таго, пасыпаць яго зверху цёплым сырам. Паставіць у печ (духоўку), каб падрумяніпася.

### ВЯЛЕНАЯ ПЛОТКА

Розная дробная рыба, свежая, дае няшмат навару і карысці. Лепш яе адразу пасля ўлову ачысціць, выпатрашыць і кінуць у цёплую печ на засланую салому. Там яна высахне за адзін-два разы і будзе цудоўным дадаткам да стала ў пост. Плотка вяленая дае такі смак і пах, якога не мае ў свежым выглядзе нават тады, калі яе ў чатыры разы больш.

Вернікі Маладзечанскай парафіі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, сябры Маладога Фронту, глыбока смуткуюць з прычыны трагічнай смерці шчырага патрыёта Беларусі і добрага Чалавека Юрася Баслыка і выказваюць свае спачуванні сям'і і блізкім нябожчыка. Вечная табе памяць, Юрась!

Укладыш падрыхтаваны пры ўдзеле Міхася Казлоўскага (адказны), Алеся Капуцкага, Анатоля Акуліка, Яўгена Міцкевіча.

